Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 10 (4913) 10 сакавіка 2017 г.



**Напярэдадні жаночага свята Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды шматдзетным маці і заслужаным дзеячам розных сфер. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што невыпадкова адным з крытэрыяў цывілізаванасці краіны лічыцца становішча і роля жанчын у грамадстве: «У гэтых адносінах Беларусь па праве ў ліку перадавых. Ва ўсіх сферах жыццядзейнасці — як прафесійнай, так і грамадскай — нашы суайчынніцы бяруць самы актыўны ўдзел».**


Фота БелТА.

# СТВАРАЛЬНІЦЫ

Не толькі адзін дзень, а кожны з 365 напоўнены жаночай энергіяй. І не толькі таму, што жанчына стварае жыццё, дае яму пачатак. Яна стварае яго і тады, калі выбудоўвае ўласны свет у адпаведнасці з чалавечымі прынцыпамі, калі імкнецца палепшыць-удасканаліць, выхаваць-вывучыць, зразумець-развіваць. Нашы жанчыны цяпер складаюць большасць насельніцтва краіны (крыху больш за 53 адсоткі), з даволі высокім узроўнем адукацыі (64 адсоткі маюць вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю) у параўнанні з мужчынамі (44,7 адсотка адпаведна). Беларускія жанчыны актыўна працуюць і занятыя ў асноўным у сацыяльна важных прафесіях: у сферы адукацыі, аховы здароўя, гандлю і культуры… Што да культуры, то гэтую галіну наогул немагчыма ўявіць без жанчын і іх апантанай захопленасці, улюбёнасці ў справу і нават самаахвярнасці.

Беларуская культура мае жаночую сутнасць, што робіць яе асабліва прыцягальнай. Са старажытных часоў адзначаем жанчын, якія неслі любоў да роднага краю і закладалі сутнасныя асновы для краіны: ад Рагнеды і Ефрасінні да жанчын часоў Рэнесансу — вытанчаных паненак і простых грамадзянак, — калі адказныя за жыццё мужчыны імкнуліся ўзняць сацыяльную ролю жанчын нават пры распрацоўцы Статутаў ВКЛ. Жанчыны разам з мужчынамі потым стануць патрыёткамі сваёй краіны, падзяліўшы яе долю: як Эмілія Плятэр ці дачка Дуніна-Марцінкевіча Каміла. Далей сваю справу будуць рабіць Эліза Ажэшка і Алаіза Пашкевіч — як асобы і як пісьменніцы. Потым узнікнуць імёны Паўліны Мядзёлкі і Зоські Верас, Канстанцыі Буйло і Леанілы Гарэцкай… Яны неслі асвету і асвятлялі шлях тым жанчынам-стваральніцам, якія ў XX стагоддзі прыйдуць у самыя розныя віды творчасці: выяўленчае мастацтва, музыку, тэатр і нават у навуку. Ніхто не адмяняў ролю жанчыны як музы, якая натхняе на творчасць мужчын. Але асобная жаночая творчасць — ужо даволі вялікая частка мастацкай гісторыі Беларусі. Да яе варта прыглядзецца, каб лепш разумець, чаго хочуць жанчыны, што для іх істотна. Таму што гэта істотна і для Беларусі — а ў яе жаночая сутнасць. Нездарма мы называем яе маці-краіна. І нават зямлю бацькоў называем у жаночым родзе — Бацькаўшчынай.

## Пункцірам

✔ Неабходна больш актыўна папулярызаваць нацыянальныя дасягненні ў розных сферах, у тым ліку ў галіне культуры і мастацтва. Гэта Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адзначыў падчас наведвання Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Кіраўнік дзяржавы падрабязна азнаёміўся з выстаўкай творчых работ намінантаў на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры 2016 года, падкрэсліў важнасць аб'ектыўнага і сумленнага выбару лепшых работ. Таму гэтым разам да падпісання адпаведнага ўказа ён вырашыў асабіста пазнаёміцца з прэтэндэнтамі на высокую дзяржаўную ўзнагароду.

✔ У ліку намінантаў — творчыя калектывы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, Беларуская дзяржаўная ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармонія, творчы калектыў у складзе скульптара Генадзя Буралкіна, скульптара-архітэктара Валянціна Занковіча і архітэктара Сталіна Федчанкі. За значныя творчыя дасягненні вылучаны кампазітар Уладзімір Кандрусевіч, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Барыс Крэпак, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, кінарэжысёр заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Анатоль Алай. Пасмяротна наміраваны на дзяржпрэмію народны артыст Беларусі Расціслаў Янкоўскі за выдатнае ўвасабленне вобразаў класічнай замежнай і сучаснай айчыннай драматургіі.

✔ Прадстаўнікі Ватыкана ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны. Адпаведны ўказ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў 7 сакавіка. За значны асабісты ўклад у развіццё культурнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Ватыканам уганараваны Апостальскі нунцый ва Украіне, Апостальскі нунцый у Беларусі (2011 — 2015 гады) Клаўдыа Гуджэроці і дырэктар установы «Музеі Ватыкана» Антоніа Паалучы.

✔ Урочышча Курапаты павінна быць месцам памяці. Такое меркаванне выказаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Курапаты павінны стаць аб'яднальным сімвалам, не трэба абвастраць вакол іх сітуацыю. Урочышча не павінна ператварацца ў палітычную Мекку, тут патрэбны знак у памяць пра загінуўшых. У Беларусі з удзелам вучоных, грамадскіх дзеячаў абмяркоўваецца статус Курапат, значэнне гэтага месца ў грамадскім жыцці, урокі, якія трэба атрымаць з трагічнага мінулага. Разглядаецца магчымасць стварэння ва ўрочышчы нацыянальнага мемарыяла памяці і смутку.

# Чалавеку Свету



Фота БелТА.

Падчас прэс-канферэнцыі.

Святкаванне 500-годдзя беларускага кнігадрукавання — лагічны працяг Года культуры. Над тым, каб гэты юбілей адзначыць на годным узроўні, асабліва актыўна працуюць Міністэрства інфармацыі Беларусі, Міністэрства культуры і Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

Супрацоўнікі культурнай галіны маюць шмат напрацовак па гэтай тэматыцы, што адзначыла Наталля Задзяркоўская, начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь:

— Дастаткова ўзгадаць дзяржаўную праграму «Культура Беларусі», якая была рэалізавана ў перыяд з 2006 па 2015 год, у межах якой вылучаліся дзяржаўныя грошы на стварэнне электроннай калекцыі «Скарыніяна». Яе фарміруе Нацыянальная бібліятэка Беларусі, якая сёння налічвае каля ста электронных копій выданняў Скарыны і літаратуры па гэтай тэме. Таксама шырока вядомы праект па факсімільным узнаўленні спадчыны Скарыны, рэалізаваны Нацыянальнай бібліятэкай.

— Мара пра тое, каб годна адсвяткаваць юбілей Францыска Скарыны, узнавіць яго спадчыну, заўсёды жыла ў бібліятэчнай, кнігазнаўчай суполцы, — падкрэсліў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. — Мы вырашылі перш-наперш высветліць, колькі ж выданняў Скарыны захавалася, дзе яны і якія. Калі мы пачыналі, казалі, што ёсць 350 асобнікаў Скарыны ў свеце. Сёння мы дакладна ведаем пра 520.

Кульмінацыйным момантам святкавання стане верасень: на яго прыпадае і Дзень беларускага пісьменства на малой радзіме Скарыны, у Полацку, і 95-годдзе Нацыянальнай бібліятэкі. У гэты час збіраюцца прэзентаваць дакументальны фільм «Першадрукар», які перамог на рэспубліканскім конкурсе кінапраектаў. У межах свята таксама адбудзецца прэм'ерны паказ спектакля Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі паводле п'есы Віктара Марціновіча, якая стала адной з лепшых у конкурсе твораў для драмтэатраў «Францыск Скарына і сучаснасць». Цікавы мультымедыйны праект на Дні пісьменства прадставіць Нацыянальны гістарычны музей: вандроўкі з Францыскам Скарынам па месцах кнігадрукавання.

У Нацыянальнай бібліятэцы плануецца Міжнародны кангрэс па тэме юбілею беларускага кнігадрукавання. Таксама запланаваны выставачны праект «Францыск Скарына і яго эпоха», дзякуючы якому жыхары Беларусі змогуць упершыню ўбачыць арыгіналы выданняў, якія раней не прадстаўляліся на тэрыторыі нашай краіны. Усе планы наконт святкавання адметнай даты разлічаны на тое, што ўдзел у іх змогуць узяць усе жыхары краіны, не толькі навукоўцы і спецыялісты.

Аляксандр Карлюкевіч, намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь, адзначыў, што святкаванне 500-годдзя беларускага кнігадрукавання не абмяжоўваецца толькі нашай краінай:

— Міністэрства інфармацыі Беларусі пры выключна сяброўскай падтрымцы Міністэрства культуры, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Саюза пісьменнікаў Беларусі з нагоды свята ладзіць шэраг міжнародных праектаў. На XVIII Вільнюскай міжнароднай выстаўцы адзін з гэтых праектаў быў рэалізаваны. Міністэрства інфармацыі з удзелам Нацыянальнай бібліятэкі пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў перадало кнігі беларускай дыяспары ў Літве — самым розным суполкам, беларускім грамадскім арганізацыям і перш за ўсё беларускай гімназіі імя Францыска Скарыны.

— Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і дзяржаўныя выдавецтвы ўжо шмат чаго зрабілі па асвятленні тэмы 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, жыцця і дзейнасці пачынальніка беларускага кнігадрукавання Францыска Скарыны праз кніжны фармат, праз многія праекты, якія ўжо рэалізаваны, — падкрэсліў Аляксандр Карлюкевіч. — Не так даўно выйшла кніга «Францыск Скарына са слаўнага горада Полацка», яна адбылася дзякуючы актыўнаму ўдзелу Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, у першую чаргу Алеся Сушы, вядомага культуролага, даследчыка, скарыназнаўца, старшыні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Гэта кніга выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». У «Беларускай энцыклапедыі імя Петруся Броўкі» падрыхтаваны праект пад назвай «Францыск Скарына — чалавек свету». Сёлета выйдзе адмысловая энцыклапедыя, прысвечаная жыццю, дзейнасці, творчасці Францыска Скарыны і яго паслядоўнікаў, гэта будзе новае, перапрацаванае выданне. Яно знойдзе свайго чытача, не толькі спецыялізаванага, але і масавага. Пры падтрымцы Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы выйшла кніга «Франциск Скорина — человек мира». Усё гэта сведчыць, што Францыск Скарына — тое знакавае імя, той персанаж нашай беларускай гісторыі, які дапамагае камунікаваць з усім светам, у першую чаргу, безумоўна, са славянскімі краінамі.

**Яна ПАЛЯШЧУК**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# «Любоў да радзімы не мае цаны!»

Паэт, аўтар шасці зборнікаў лірыкі, сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі, ганаровы грамадзянін Чачэрскага раёна Міхась Болсун адзначыў 75-годдзе. Віншаванні юбіляр атрымаў падчас аўтарскага творчага вечара «Я тым шчаслівы, што жыву» ў Гомельскай гарадской бібліятэцы імя А. Герцэна.

Амаль 40 гадоў паэт прысвяціў журналістыцы. Першы яго верш пабачыў свет у 1959 годзе. Паэзія Міхася Болсуна лірычная, прасякнутая вобразнасцю і патрыятызмам. «Прадаць усё можна: / І хату, і пуню. / Любоў да радзімы / Не мае цаны!» — сцвярджае ён у адным з твораў.

Сярод гасцей вечара — калегі Міхася Міхайлавіча па пяры. Слова мелі пісьменнікі Мікалай Ждановіч і Васіль Ткачоў. «Гэты чалавек заслугоўвае самых добрых слоў павагі і падтрымкі. Напярэдзе ў яго яшчэ шмат спраў», — упэўнены старшыня Гомельскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч.

На вечарыне гучалі не толькі вершы юбіляра. Музычныя падарункі падрыхтавалі саліст эстрадна-сімфанічнага аркестра абласной філармоніі Канстанцін Гарошка, выканаўцы з Гомельскага гарадскога цэнтра культуры. Дырэктар бібліятэкі імя А. Герцэна Таццяна Уласава падзякавала Міхасю Болсуну за шматгадовую вернасць кніжніцы.

Сардэчна, па-зямляцку прывіталі юбіляра кандыдат тэхнічных навук Віктар Камісараў, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар тэхнічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь Юрый Плескачэўскі. Юрый Міхайлавіч узгадаў кнігу «Чачэрскі след у навуцы» («Чечерский след в науке»): звыш 50 эсэ пра навукоўцаў гэтай зямлі напісаны Міхаілам Болсунам. Паэт атрымаў Ганаровую грамату НАН Беларусі.

**Тамара КРУЧЭНКА**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**11 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Анастасіяй Кузьмічовай, прысвечаную Сусветнаму дню тэатра, у Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага раёна. Пачатак у 10.30.*

**13 сакавіка** — *на сустрэчу з пісьменнікамі, прымеркаваную да Тыдня роднай мовы, у ліцэй № 14. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**13 сакавіка** — *на паэтычна-музычную імпрэзу «Мелодыі кахання» ў публічную бібліятэку № 21 (вул. Слабадская, 63) з удзелам пісьменніка, паэта і барда Аляксандра Вашчанкі. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**14 сакавіка** — *на літаратурнае свята, прымеркаванае да Тыдня роднай мовы, у СШ № 134. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**15 сакавіка** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам паэтэсы Ніны Галіноўскай у СШ № 200. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**15 сакавіка** — *на круглы стол «Масты сяброўства», прысвечаны супрацоўніцтву з пісьменніцкай арганізацыяй г. Калінінграда (з удзелам пісьменніка, рэдактара часопіса «Балтика» Барыса Бартфельда), у Доме літаратара. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**15 сакавіка** — *на пасяджэнне студыі юных літаратараў «Малінаўскія галасы» ў дзіцячую бібліятэку № 15. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**15 сакавіка** — *на ўрачыстую цырымонію ўручэння літаратурнай прэміі сталічнага аддзялення СПБ «Адкрыццё» за 2016 год у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5. Пачатак у 17.30.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**17 сакавіка** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніка Віктара Сабалеўскага «Бясцэнны скарб» у літаратурную гасцёўню Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**13 сакавіка** — *на імпрэзу ў межах грамадска-літаратурнай акцыі «Чытаем Купалу разам», прысвечаную 135-годдзю з дня нараджэння Песняра, у Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**16 сакавіка** — *на прэзентацыю альманаха паэзіі «Три свечи» ў аднайменную літаратурную кавярню. Пачатак а 19-й гадзіне.*

**17 сакавіка** — *на сустрэчу з дзіцячым паэтам Віктарам Кудлачовым і празаікам Ірынай Фамянковай у гродзенскую бібліятэку № 5. Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

*13 сакавіка — на творчую сустрэчу з пісьменніцай Таццянай Дземідовіч у брэсцкую СШ № 9. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**17 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Анатолем Бензеруком у брэсцкую СШ № 33. Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**15 сакавіка** — *на прэзентацыю кнігі «Захавала памяць дні» паэта Уладзіміра Куца ў полацкую бібліятэку імя Янкі Купалы. Пачатак а 17-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**10 сакавіка** — *на сустрэчу з вучнямі сярэдняй школы вёскі Благавічы Чавускага раёна з пісьменнікам Мікалаем Барысенкам. Пачатак а 13-й гадзіне.*

*ВыДАТна*

# АДНА ЭПОХА З 950 ГАДОЎ

## Як бачыў Лангбард: архітэктурнае аблічча Мінска ў ХХ стагоддзі

**Ад першай згадкі горада Мінска ў летапісах вядзецца адлік яго гісторыі — драматычнай і стваральнай, гераічнай і статусна-сталічнай. Пра апошняе можна меркаваць і паводле вонкавага аблічча горада, у якім ёсць шэраг аб'ектаў, з-за чаго Мінск не зблытаеш ні з якім іншым горадам свету. Частка аб'ектаў спраектаваная архітэктарам Іосіфам Лангбардам. Мінск і Лангбард звязаныя лёсам, таму яшчэ і выстаўкай у галерэі Міхаіла Савіцкага: яна прымеркаваная да 950-годдзя сталіцы і 135-годдзя заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, доктара архітэктуры і горадаўтваральніка.**

У 30-я гады мінулага стагоддзя горад набывае шэраг адметных будынкаў, якія фарміруюць яго твар: Дом урада і Вялікі тэатр оперы і балета, Дом афіцэраў (Дом Чырвонай Арміі) і галоўны корпус Акадэміі навук БССР. Будынкі, якія адпавядалі часу, якія былі вельмі патрэбныя сталіцы Рэспублікі Беларусь. Тады і зараз: лёс распарадзіўся так, што аб'екты, створаныя Іосіфам Лангбардам, перажылі Другую сусветную вайну і аднавіліся да жыцця, чаму паспрыяў і сам аўтар. Пасля вайны Іосіф Лангбард вярнуўся ў Мінск. Тое, як выглядаў тады горад, здолеў захаваць вучань Лангбарда Сяргей Святліцкі ў акварэльных малюнках. Разам са сваім настаўнікам ён прыехаў у Мінск і рабіў адказную справу: удзельнічаў у працы ўрадавай камісіі па аднаўленні разбураных вайной гарадоў Беларусі.

Падчас выстаўкі ў галерэі Савіцкага ёсць магчымасць зразумець працэс нараджэння будынкаў ад іх задумы: прадстаўлены чарцяжы і нават малюнкі інтэр'ераў, праекты па рэканструкцыі будынкаў пасля вайны. Але і гісторыя самога Іосіфа Лангбарда раскрываецца праз фотаматэрыялы з сямейнага архіва. Выстаўка арганізавана сумесна з Беларускім дзяржаўным архівам навукова-тэхнічнай дакументацыі і Прэзідэнцкай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь. Таму ў экспазіцыі знайшлося месца і рэчам, знойдзеным на гарышчы Дома ўрада летась. Яны сведчаць пра перыяд акупацыі ў сталіцы Беларусі і толькі падкрэсліваюць вялікую жыццёвую сілу горада, здольнага залечваць раны і пісаць сваю гісторыю далей.

**Марыя АСІПЕНКА**

*Вернісаж*

# Тут разумеюць…

## Сіла веры праз здымкі ізраільскага фатографа Дафны Таль

**Мастацкая галерэя «Універсітэт культуры» запрашае наведаць выстаўку ізраільскага фатографа Дафны Таль «Цвёрдая вера: Праваслаўе на Святой Зямлі», прысвечаную 25-годдзю ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Дзяржавай Ізраіль і Рэспублікай Беларусь.**

Дафна Таль нарадзілася ў Ізраілі. Таму яе стаўленне да веры заўсёды было сур'ёзным і ўсвядомленым. Над фотапраектам мастачка працавала больш за тры гады. Яна імкнулася паказаць сілу шматвяковай праваслаўнай веры і яе росквіт на Святой Зямлі, стаўленне людзей да рэлігіі. У выніку аказалася, што вера — паняцце настолькі глыбокае, што раскрыць яго за некалькі дзён немагчыма. Працэс патрабуе часу, абгрунтавання, уласнага асэнсавання. Аўтара зачапіла, як людзі могуць быць цалкам адданыя Богу, як знаходзяць прызначэнне ў служэнні яму.

На фотаздымках мы можам бачыць манахаў, святароў, паломнікаў, якія з'яўляюцца неад'емнай часткай сучаснага Ізраіля, а таксама прыгожыя манастыры, цэрквы, унутранае ўбранства храмаў. Фотамастачка не проста адлюстроўвае гісторыка-культурныя каштоўнасці сваёй краіны — разважае, як праз веру чалавек становіцца больш уважлівым да жыцця, з'яў прыроды і самога сябе.

На цырымоніі адкрыцця Дафна Таль адзначыла, што падчас стварэння праекта яна яшчэ больш пераканалася ў тым, што вера патрэбная чалавеку, гэта стымул да дабрыні. У Беларусь прывезці свой праект аўтарка вырашыла таму, што была ўпэўнена: тут яе зразумеюць.

Не памылілася. Фотаздымкі выклікалі вялікую цікавасць у сталічных гледачоў. Дафна Таль уражана, наколькі наведвальнікі зразумелі яе ідэю: многія падыходзілі і выказваліся наконт рэлігійных сувязяў народаў Беларусі і Ізраіля, цікавіліся месцамі, у якіх былі зроблены фотаздымкі. У будучыні аўтар плануе арганізаваць сумесны беларуска-ізраільскі праект.



*Манах Ахілій, Капліца Ушэсця, Алейная гара, Ерусалім.*

**Вікторыя АСКЕРА**

# ЛіМ-каляндар

**6 сакавіка** 80 гадоў споўнілася Уладзіміру Крукоўскаму, беларускаму мастаку-плакатысту.

**7 сакавіка** — 145 гадоў з дня нараджэння Васіля Залатарова (1872 — 1964), беларускага і расійскага кампазітара, педагога, заслужанага артыста РСФСР, народнага артыста БССР.

**7 сакавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння Тараса Хадкевіча (1912 — 1975), беларускага празаіка, паэта, перакладчыка, заслужанага работніка культуры БССР.

**8 сакавіка** — 130 гадоў з дня нараджэння Усевалада Фальскага (1887 ці 07.03.1886 — ?), беларускага грамадска-палітычнага, дзяржаўнага і культурнага дзеяча, акцёра, аднаго са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра.

**8 сакавіка** — 100 гадоў з дня нараджэння Сяргея Селіханава (1917 — 1976), беларускага скульптара, народнага мастака БССР.

**9 сакавіка** 90-годдзе адзначыў Пётр Лісіцын, беларускі празаік. Піша на рускай мове.

**10 сакавіка** 85 гадоў святкуе Ганна Кліменка, беларускі мовазнаўца.

**10 сакавіка** 75 гадоў адзначае Мікола Мінчанка, беларускі паэт, празаік, публіцыст.

**11 сакавіка** — 190 гадоў з дня нараджэння Каятана Крашэўскага (1827 — 1896), пісьменніка, кампазітара, астранома-аматара.

**11 сакавіка** — 130 гадоў з дня нараджэння Алеся Гаруна (1887 — 1920), беларускага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста, грамадскага дзеяча.

**11 сакавіка** — 95 гадоў з дня нараджэння Міколы Гамолкі (1922 — 1992), беларускага празаіка, паэта, драматурга, перакладчыка.

**11 сакавіка** 70-гадовы юбілей святкуе Мікалай Емяльянаў, беларускі і расійскі акцёр, заслужаны артыст БССР.

**12 сакавіка** 80 гадоў адзначае Васіль Ціханенка, беларускі жывапісец.

**12 сакавіка** 60 гадоў спаўняецца Шушано Ісхакбаевай, беларускаму кампазітару.

*Дайджэст*

• Польшча запрасіла Беларусь узяць удзел у міжнародным кніжным кірмашы, які пройдзе ў Варшаве 18 — 21 мая. Афіцыйнае запрашэнне ад арганізатараў перадаў міністру інфармацыі Ліліі Ананіч Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі Конрад Паўлік. Ён выказаў упэўненасць, што беларускі стэнд зойме важнае месца. «Упэўнены, што ўдзел Беларусі будзе вельмі паспяховым, важным і знакавым, у тым ліку і ў сувязі з тым, што сёлета адзначаецца 500-годдзе беларускага кнігадрукавання», — сказаў спадар пасол. Па яго словах, Польшча задаволеная сваім удзелам у XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ў лютым. Гэты форум стаў важным мерапрыемствам для польскіх выдаўцоў і аўтараў, меў добры розгалас у краіне. Польшча прэзентавала на выстаўцы больш за 200 выданняў, якія выклікалі вялікую цікавасць у гасцей кірмашу. Лілія Ананіч, у сваю чаргу, перакананая, што ўдзел Беларусі ў варшаўскай кніжнай выстаўцы стане добрым знакам у развіцці двухбаковых адносін. Бакі выказалі зацікаўленасць у тым, каб спланаваць насычаную праграму.

• Пяць работ Марка Шагала прадалі на аўкцыёне *Christie's* за $3,5 мільёна. 28 лютага і 1 сакавіка прайшлі тры аўкцыёны, на якіх прадаваліся работы імпрэсіяністаў і сучасных мастакоў. Сярод твораў, выстаўленых на продаж, былі і работы Шагала. Найбольш высока калекцыянеры ацанілі карціну «Галава каня»: яна была прададзеная больш як за мільён долараў. «Аголеную з букетам» ацанілі ў 931 тысячу долараў, карціну «Пара і свяцільнік» — у 752 тысячы, «Жоўты певень у небе над Вансам» прададзены за 483 тысячы долараў. Малюнак «Мексіканская серэнада», створаны на паперы гуашшу і акварэллю, ацанілі ў 228 тысяч долараў.

• Гістарычны музей збірае грошы на раннія манеты ВКЛ талакою. У зборах музея практычна адсутнічаюць раннія манеты Вялікага Княства Літоўскага. Гэта абумоўлена тым, што даваенныя нумізматычныя зборы былі амаль цалкам страчаныя падчас акупацыі Мінска ў 1941 — 1944 гадах; таксама тыраж раннелітоўскіх манет быў невялікім, і большая частка манет знойдзеная ў апошнія дзесяцігоддзі. На сёння музей мае толькі дзве раннелітоўскія манеты: пенязь, тып «звер/кірылічны надпіс», і пенязь, тып «дзіда з крыжом/калюмны». «У параўнанні са зборамі Эрмітажа, музеяў Вільні, Варшавы і Кракава калекцыя выглядае прыкра і сумна. Але мы ў стане змяніць гэта», — перакананыя музейшчыкі. Летась музею прапанавалі для закупкі калекцыю з 9 раннелітоўскіх пенязяў. Агульны кошт іх складае 7200 рублёў. Пры ўдалым заканчэнні акцыі манеты будуць прэзентаваныя грамадству і размешчаныя ў адной з вітрын на экспазіцыі «Старажытная Беларусь» — замест муляжоў грыўнаў. У будучыні яны ўпрыгожаць нумізматычны кабінет гістарычнага музея.

# Падарожжы са Скарынам

## Кніжка, што лічыцца першым друкаваным выданнем на землях Вялікага Княства Літоўскага, вярнулася дадому



Фота Кастуся Дробава.

«Малая падарожная кніжка».

«Малая падарожная кніжка» была выдадзеная Францыскам Скарынам у 1522 годзе, калі ён пераехаў з Прагі ў Вільню. Рарытэт узбагаціў калекцыю Белгазпрамбанка. Старшыня праўлення Белгазпрамбанка Віктар Бабарыка прызнаўся, што перамовы з калекцыянерам, у якога захоўвалася кніжка, працягваліся некалькі год, і толькі такая значная дата, як 500-годдзе беларускага кнігадрукавання ды цёплыя пачуцці самога ўласніка да радзімы, нарэшце наблізілі чаканы кампраміс. «Малая падарожная кніжка» ўпершыню з'явілася перад аўдыторыяй падчас прэс-канферэнцыі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

«Малая падарожная кніжка» — зборнік з 21 тэксту. Экзэмпляр, што патрапіў ва ўласнасць Белгазпрамбанка, складаецца з 18 частак. Нягледзячы на рэлігійны змест, кніга ўсё ж не царкоўная, а свецкая: дасведчаны падарожнік Францыск Скарына стварыў яе дзеля такіх жа вандроўнікаў, каб яны маглі звярнуцца да Бога ў любы момант. Адсюль і маленькі фармат выдання: кніжка лёгка змяшчалася ў кішэні падарожніка XVI стагоддзя.

Францыск Скарына — надзвычай цікавая асоба для свайго часу і чалавецтва ўвогуле: першадрукар, асветнік, гуманіст, вучоны, філосаф, лекар, пісьменнік, доктар навук і нават садоўнік. Каб адбыцца ва ўсіх азначаных іпастасях, Скарыне давялося прымераць на сябе яшчэ адну ролю, якую звычайна не прынята згадваць асобна, — ролю падарожніка. Полацк, Вільня, Кракаў, Падуя, Прага — імя нашага вялікага суайчынніка засталося на старонках гісторыі еўрапейскіх сталіц асветы ды ведаў. Дзеля шырокага кругагляду і развіцця сваіх здольнасцяў першадрукару давялося шмат вандраваць. Выправіцца ў падарожжа па скарынаўскіх мясцінах — ці не лепшы спосаб адзначыць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання? Нагадаць Еўропе пра спадчыну нашага першадрукара праз палову тысячагоддзя вырашыў Белгазпрамбанк разам з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі.



Фрагмент тэксту з «Кнігі Іова».

— Францыск Скарына зрабіў унёсак не толькі ў славянскую культуру. Гэта чалавек, які меў агульнаеўрапейскі ўплыў, — сцвярджае старшыня праўлення Белгазпрамбанка Віктар Бабарыка. — У нас нарадзілася ідэя адзначыць юбілейны год у месцах, шчыльна звязаных з імем першадрукара, у нейкім сэнсе прайсці дарогамі самога Скарыны. У спіс «скарынаўскіх» гарадоў трапілі Полацк, Вільня, Кракаў, Прага і Падуя. Так з'явіўся праект «Шляхамі Скарыны з Белгазпрамбанкам».

Пачнецца праект у маі ў Літве, пасля наведае Польшчу, Чэхію і, магчыма, Італію. Апошнім прыпынкам кніжнага падарожжа будзе радзіма Скарыны — Беларусь, куды на свята 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ўвосень вернуцца экспанаты. Цэнтрам экспазіцыі стане «Малая падарожная кніжка», якую ў сувязі з юбілейным годам набыў Белгазпрамбанк, і «Кніга Іова» з фонду Нацыянальнай бібліятэкі. Але наведвальнікаў выстаўкі чакаюць не толькі арыгіналы скарынаўскіх кніг: глядачам пакажуць дакументальны фільм пра жыццё і працу першадрукара, з дапамогай віртуальнай рэальнасці і матэрыялаў полацкага Музея беларускага кнігадрукавання створаць сапраўдную экскурсію па старажытнай друкарні. Акрамя асноўнай часткі экспазіцыі, агульнай для ўсіх краін, арганізатары мяркуюць далучыць да прэзентацыі скарынаўскай спадчыны мясцовых партнёраў. Яны зробяць акцэнт на развіцці кнігадрукавання ў сваіх гарадах.

Рарытэтныя кнігі рэдка выпраўляюцца ў падарожжа. Тым больш цікава, што «Малая падарожная кніжка», якая толькі-толькі ўзбагаціла калекцыю Белгазпрамбанка, ужо едзе вандраваць.

Разам з «Малой падарожнай кніжкай» прэзентавалі яшчэ адзін каштоўны фаліянт — «Кнігу Іова». Гэта ўласнасць Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Юбілей беларускага кнігадрукавання адначасова і юбілей «Кнігі Іова»: яе лічаць другім пражскім выданнем Скарыны, якое пабачыла свет у 1517 годзе. Паводле загадчыка навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Галіны Кірэевай і куратара карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка Аляксандра Зіменкі, гэтыя асобнікі ўжо даследуюцца навукоўцамі.

— Зараз у нас ёсць магчымасць аб'яднаць патэнцыял дзвюх арганізацый — найбуйнейшых уладальнікаў кніг Скарыны ў краіне — Белгазпрамбанка і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, — кажа дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі, доктар педагагічных навук Раман Матульскі. — Пасля набыцця «Малой падарожнай кніжкі» Белгазпрамбанкам рэйтынг Беларусі як захавальніка арыгінальнай спадчыны Францыска Скарыны адразу ўзрос да трэцяга месца ў свеце. Калі дагэтуль у нас было 10 арыгіналаў Скарыны, то цяпер іх ужо 28.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

## *Палачане*

**Кожнаму, каму выпала нарадзіцца ў старажытным Полацку, бадай, знаёмае пачуццё прыналежнасці да авеянага сівой даўнінай месца над вячыстай Дзвіной і вірлівай Палатой. І нездарма пісаў паэт пра тое, што ёсць полацкі менталітэт. Мне, які нарадзіўся насупраць славутага Сафійскага сабора ў полацкім радзільным доме, знаёмае гэтае пачуццё еднасці з землякамі-палачанамі, з якімі мяне зводзіў лёс. І дзе б ні сустракаў іх на розных дарогах і пуцявінах, у якіх краінах і на якіх кантынентах, заўсёды агортвала пачуццё любасці і павагі, бо нас яднае наш родны Полацк, месца нашага фізічнага і духоўнага нараджэння. Хочацца падзяліцца кароткімі аповедамі пра гэтых цудоўных людзей у год, калі мы ўсе будзем адзначаць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання ў маім родным Полацку на чарговым свяце беларускага пісьменства.**

# ІВАН ДЭЙНІС

Цяперашняя вуліца Ефрасінні Полацкай, якая ў гады майго дзяцінства і юнацтва насіла назву ў гонар чырвонага палкаводца Фрунзэ, прымыкала да брамы Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, а за некалькі метраў ад яе, па левую руку, высіўся магутны чатырохпавярховы будынак з чырвонай цэглы — Полацкі лясны тэхнікум. Навучэнцаў яго, вясковых у асноўным хлопцаў і дзяўчат, мясцовыя звалі «караедамі».

Вось менавіта адным з шаноўных выкладчыкаў «караедаў» быў Іван Пятровіч Дэйніс — славуты полацкі інтэлігент і вядомы ў горадзе краязнаўца. Я добра памятаю яго вышкталцоную постаць, твар з пышнымі вусамі, праніклівы позірк вачэй. Я выбягаў з нашай саўгаснай кватэры ў садзе прыгараднай гаспадаркі, куды мы пераехалі, калі я пайшоў у дзявяты клас, і нярэдка сустракаў гэтага славутага чалавека, які нетаропка крочыў з партфелем у руцэ і пыхаў на хаду сваёй пракуранай люлькай. На жаль, мне не давялося асабіста ні разу пагутарыць з Іванам Пятровічам, нават калі ўжо працаваў у мясцовай газеце, але з яго цікавымі матэрыяламі пра нашу полацкую даўніну быў знаёмы і з захапленнем іх чытаў у мясцовым друку.

Сённяшняя дырэктарка краязнаўчага музея Ірына Воднева напісала цікавы жыццяпіс пра гэтага цудоўнага чалавека, і мне хацелася б, каб пра яго ведалі не толькі наведвальнікі музея. Дык вось, па сведчанні І. Водневай з яе артыкулаў, вывучаць гісторыю і цікавіцца мінулым сваёй Бацькаўшчыны Іван Пятровіч пачаў яшчэ ў маладосці. Павага да ведаў у сям'і Дэйнісаў перадавалася з пакалення ў пакаленне. Дзед па лініі маці — Сакалоўскі Іван Лукіч — быў настаўнікам павятовага вучылішча. Бацька — Пётр Восіпавіч — скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут і Маскоўскі археалагічны інстытут. Настаўніцай была і маці — Марыя Іванаўна. У Невелі, дзе сям'я жыла да 1905 года, яна працавала ў прыходскім жаночым вучылішчы. У Полацку таксама выкладала спачатку ў прыходскім вучылішчы, а потым у І-й Працоўнай школе разам з мужам, які працаваў там дырэктарам.

У студзені 1919 года, пасля заканчэння Віцебскай гімназіі, Іван Дэйніс паступіў на аднагадовыя педагагічныя курсы пры Віцебскім настаўніцкім інстытуце, але праз 2 месяцы з-за харчовых цяжкасцей пераеўся на аналагічныя курсы ў Полацк. Пачаткам сапраўднай настаўніцкай дзейнасці стала праца ў І-й савецкай школе і педтэхнікуме.

Рэвалюцыя, грамадзянская вайна... Здавалася б, ні да гісторыі і краязнаўства! Але Полацк ёсць Полацк, і ў чэрвені 1920 года ў горадзе ўтвараецца камісія па ахове помнікаў даўніны. Узначаліў яе бацька Дэйніса Пётр Восіпавіч, а малады Янка стаў інструктарам і старшынёй пададдзела мастацтваў.

Працуючы ў камісіі, Іван Пятровіч браў актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах. Гэта і абследаванне помнікаў архітэктуры, і вывучэнне архіваў полацкіх храмаў, і збор матэрыялаў для музея, і многае іншае. Камісія актыўна працавала да канца 1924 года. У дакументах, якія захоўваюцца ў Полацкім занальным архіве, ёсць звесткі пра экскурсійную працу з навучэнцамі павятовых школ, якую праводзіў Іван Дэйніс. Разлічаныя на два дні, экскурсіі дазвалялі пазнаёміць маладых аматараў краязнаўства не толькі з помнікамі архітэктуры (Богаяўленская царква, Барысаглебскі манастыр, Сафійскі сабор, Мікалаеўскі сабор), але і з матэрыяламі, сабранымі членамі камісіі (музейныя фонды, прыродна-гістарычная калекцыя, гістарычныя прадметы).

У камісіі Іван Пятровіч, або, як запісана ў дакументах, Янка Дэйніс, адпрацаваў да 1 лістапада 1924 года. А з 1 студзеня 1925 года ён стаў сябрам і сакратаром праўлення краязнаўчага таварыства, якое працягнула справу, распачатую камісіяй. Асноўнай мэтай новай арганізацыі стала ўсебаковае вывучэнне Полацкай акругі ў гістарычных, эканамічных, геапалітычных і іншых адносінах, а таксама навуковая распрацоўка пытанняў, распаўсюджванне адпаведных звестак і абуджэнне інтарэсаў да задач краязнаўства ў грамадскім асяроддзі. Вынікамі такой шматбаковай працы сталі выданне краязнаўчага зборніка «Полотчина», публікацыі ў мясцовым і рэспубліканскім друку, адкрыццё 26 снежня 1926 года Полацкага акруговага музея.

Затым Іван Пятровіч, стаўшы студэнтам Мінскага педагагічнага інстытута, на даволі працяглы час пакідае родны горад, вяртаецца ж ужо выкладчыкам ляснога тэхнікума, а пасля вайны, у вызваленым ад фашыстаў горадзе, яму даручаюць аднаўляць і на поўны час узначальваць навучальную ўстанову.

Ды краязнаўства заўсёды жыло ў душы гэтага чалавека. У 1960 годзе ён напісаў вялікую манаграфію па гісторыі тэхнікума, а пасля выхаду на пенсію — дзве вялікія працы: «Полацкая даўніна» і «Полацк у XX стагоддзі». І сёння гэтыя працы — неацэнны скарб для навукоўцаў, якія даследуюць полацкую гісторыю. Маючы мастакоўскія здольнасці, Дэйніс усё жыццё рабіў замалёўкі гістарычных мясцін. Іх, а таксама пяць альбомаў цікавых матэрыялаў, ён падарыў краязнаўчаму музею.

Напрыканцы мінулага года ў Полацкім краязнаўчым музеі адкрылася зала ганаровых грамадзян горада. І пачэснае месца ў ёй займаюць экспанаты, прысвечаныя Івану Пятровічу Дэйнісу, слыннаму полацкаму інтэлігенту.

# ПА СЛЯДАХ ПРЫХАВАНАЙ ІСЦІНЫ

**Даследчык мастацтва, пісаў К. Гінзбург, прыпадабняецца да дэтэктыва, які выяўляе аўтара злачынства на падставе прыватных доказаў, не заўважных для большасці. Нават непразрыстая рэальнасць мае прывілеяваныя фрагменты, што дазваляюць яе дэшыфраваць. Гэтая ідэя — сутнасць доказавай парадыгмы, якая мае істотны ўплыў на сучаснае аблічча гуманітарных навук. Тып пазнання, што характарызуецца здольнасцю ўзыходзіць ад нязначных дадзеных досведу да складанай рэальнасці, недаступнай непасрэднаму эмпірычнаму назіранню, вучоны называе «паляўнічым», бо ў ім вырашальную ролю адыгрываюць «няўлоўныя» элементы: чуйнасць, пільнае вока, інтуіцыя.**

Як адзначае прафесар Ю. Бораў, насустрач досведу мастака, зафіксаванаму ў творы, рэцыпіент (даследчык) кідае свой досвед, які асучаснівае, выяўляе і нават узбагачае сэнс твора. Мастацкія зносіны дазваляюць людзям абменьвацца думкамі, даюць магчымасць чалавеку далучацца да гістарычнага і нацыянальнага досведу, які адстаіць далёка, — эпахальна і геаграфічна. Гэтым самым мастацтва павышае духоўны патэнцыял і агульнасць чалавецтва.

Л. Гумілёў піша аднойчы гісторыі: «*Відавочнасць і інтуіцыя ляжаць на мяжы навукі і мастацтва. Вось таму ў гісторыі і ёсць свая муза — Кліа*». Нам падаюцца надзвычай значнымі наступныя высновы вучонага: навука гісторыя — гэта барацьба з часам. Для тых, хто памёр, час знікае. Але ўсе арганізмы біясферы звязаны адзін з другім. І сыход аднаго — страта для многіх, бо гэта перамога адвечнага ворага жыцця — Хронаса. Але супраць Смерці паўстае Памяць — перашкода, якую ставіць энтрапіі ўжо не былое, а свядомасць. Менавіта памяць падзяляе час на мінулае, сённяшняе і будучае, з якіх рэальна… толькі мінулае!

Але мінулае тады перастае быць рэальным, калі яго падмяняюць вымыслам, ці скажаюць няпоўнай перадачай, ці абцяжарваюць непатрэбнай мішурой бессэнсоўных падрабязнасцей. Патрабавальны да сябе майстар, К. Чорны не пасаромеўся прызнацца: «*Другая частка рамана "Трэцяе пакаленне" канчаецца тым, што Несцяровіч выходзіць слухаць шум ветру. Ніхто з іншых герояў — ні Зося, ні кравец — гэтага не робяць, ім я здолеў даць іншую, важнейшую работу. А Несцяровіч не быў мне да канца ясны, тут я не меў матэрыялу, і я прымушан быў рабіць непатрэбнае апісанне прыроды, якое, калі і выкінуць, не зменіць нічога ў рамане*». І яшчэ адна значная і цікавая цытата з Л. Гумілёва: «*Бацька маны нашэптвае даверлівым невукам, што ў гісторыі няма праўды, а толькі асабістае ўспрыманне, што яе з'явы — не ланцуг падзей, каўзальна звязаных паміж сабой, а бессэнсоўны калейдаскоп, які запомніць немагчыма, што тэксты варта разумець літаральна, нібыта храніст пісаў іх не для сучаснікаў, а для нашчадкаў…*».

Як пісаў Г. Бёль, каб у надзённым («злободневном») убачыць рэчаіснае («действительное»), сутнаснае, трэба прывесці ў рух нашу фантазію, сілу ўяўлення, якая дае нам здольнасць стварыць вобраз. Надзённае — шлях да рэчаіснага. Тыя, хто прымае надзённае за рэчаіснае, насамрэч вельмі далёкія ад пазнання рэчаіснасці. Надзённасць, як гэта часта бывае, можа аказацца кароткачасовай, а тое, што *сапраўды* адбылося ў той дзень, яшчэ не зрабілася цалкам зразумелым. (Напрыклад, выбух у Чарнобылі — надзённае, «злоба дня», а рэчаіснасць — новая смерць, якая можа ўпасці на нас з дажджом, трапіць з ежай і да т. п.). Рэчаісная і наша фантазія, рэальны дар, атрыманы намі для таго, каб мы навучыліся расшыфроўваць факты і за імі бачыць рэчаіснасць.

Ключавое паняцце артыкула ўзята з працы Ант. Адамовіча «Мастацкая крыптаграфія ў нашай літаратуры» (Ант. Адамовіч «Да гісторыі беларускае літаратуры», Мінск, 2005), дзе зроблены «*агульны і абелы агляд ужываных нашай літаратурай метадаў мастацкай крыптаграфіі*». Аўтар адзначае, што ў спадчыну ад дасавецкай пары беларуская літаратура атрымала метад грамадзянска-палітычнай алегарызацыі з'яў прыроды. Ён быў уласцівы адраджэнству, але ў канцы 1920-х — 1930-я гады саступае месца метадам мастацкай крыптаграфіі, вядучую ролю сярод якіх адыгрываюць «метад перададзенай трыбуны», «перапрананне», «натураграфія», узаемадзеянне мастацкіх і немастацкіх жанраў (выкарыстанне дакумента), крыптаграфічнае выкарыстанне ўсякай сэнсавай двухпланавасці ў спалучэнні з метадам іранізацыі, графічнае і літарнае зашыфроўванне ідэі. У пераходныя эпохі, адзначае А. Крыўцун, тыя віды мастацтва, што былі звязаны з пошукамі яскравай і агульназначнай формы, у тым ліку празаічныя жанры літаратуры, вычуваюць стан крызісу.

Думаецца, мастацкая крыптаграфія таксама ў пэўнай ступені звязана з імкненнем кампенсаваць гэты дэфіцыт. «Метад» літарнага зашыфроўвання ідэі (прыклады ў нашым артыкуле вылучаем асобным шрыфтам) выяўлены намі на апошніх старонках апошняга рамана Платона Галавача «Праз Гады», дзе дыскутуюць **П**рафесар Галынскі і надзвычай дзівакаваты паэт (у мінулым земскі аграном) **ЯГ**утПла. Дыскусія вельмі вострая, пра лёс навукі і мастацтва пры бальшавіцкім ладзе. І найбольш шчыры ў ёй Ягупла (хоць і вобраз Галынскага на працягу раманнага дзеяння, безумоўна, рэпрэзэнтуе пэўныя аўтарскія інтэнцыі). Раман выйшаў у 1935-м, Галавача расстралялі ў 1937-м. Узнікае перакананне, што пад канец жыцця ён нібыта імкнуўся сказаць самае важнае, праўдзівае, выяўляючы ўласную атрактыўнасць і вымушаючы даследчыка падпасці пад яго ўздзеянне як атрактара. Гэта і стымулюе літарны шыфр **ПГал**. Такое ўражанне, што аўтар крычыць: «Паччуйце! Я, Галавач Платон, увагі прашу!».

Устойлівыя ў індывідуальнай і шырэй — нацыянальнай свядомасці вобразныя аналагава-асацыятыўныя сувязі рэалій адлюстроўваюцца ў так званых метафарычных канцэптах — ментальных канструктах, якія экспліцыруюцца ў працэсе крэатыўнай вербальнай дзейнасці аўтара ў выглядзе канкрэтных метафарычных рэалізацый. Кантэкстуальным сінонімам тут можа быць паняцце «локусы культуры», «нацыянальныя локусы культуры». Локусы культуры — прасторавыя паняцці (канкрэтныя назоўнікі), якія рэгулярна ўзнаўляюцца ў тэкстах культуры і надзяляюцца сімвалічным значэннем, г. зн. метафарызуюць нейкую ўласцівасць быцця (паводле Э. Ласана).

Возьмем для прыкладу локус балота, але не ў тым ходкім значэнні, у якім ён ужываецца найчасцей. Вось выказванне А. Бабарэкі: «У нашых балотах ёсць жыццё, ёсць тое, ад чаго можа ўзрасці яшчэ нечуванае. Кіньце ж туды адпаведнае зерне, што ўмее і з балота ўзяць патрэбную для сябе страву». Гісторыя славянства, пісаў М. Пbabры... Прышвін, «падобная да гісторыі тарфяных напластаванняў у лясах: закладзеная ў зеляніне раслін сонечная сіла, агонь, не дзейнічае, а кісне ў вадзе і назапашваецца стагоддзямі, зялёная звонку і чорная ва ўнутранай масе. Але варта высушыць торф, і сабраная вогненная сіла дзейнічае, і зноў не вада, а агонь вызначыць рух».

Крытыкуючы раман М. Зарэцкага «Крывічы», А. Канакоцін пісаў: нацдэм Беразоўскі пакідае запавет, «*што трэба збіраць усе сілы з нізін, з балот, збіраць народ на паўстанне супраць пануючых бальшавікоў*». Сляпень у гэтым жа рамане выказвае перакананне: «*Беларускае адраджэнне будзе ісці з карэнняў беларускага народу. Усякія штучныя формы, у якія б захацеў хто-небудзь укласці яго, рассыплюцца ў прах.* <…> *Знізу, з зямлі, вырасце наш рэнесанс*». Ліпін, які «*прыехаў з вёскі ў Менск шукаць Беларусь… а знайшоў бе-ла-ру-сі-за-цы-ю…*», усё ж заклікае: «*Малайцы, хлопцы, працуйце — ліха на вас, працуйце. Знізу браць трэба, знізу — з зямлі, з балот…*». «Прававерны» герой Буднік (П. Галавач, «Праз гады») гаворыць прафесару Галынскаму, што ўрад прыняў пастанову пра пабудову на Яснаўскім балотным масіве энергахімічнага камбіната па вытворчасці з



торфу пластычных мас. І трыумфуе: «*Не дзе-небудзь на Урале або ў Данбасе, а на балоце, разумееце? Дзе нават каровы грузлі, дзе адным ваўкам толькі і можна было жыць…*». Вучоны Галынскі кажа камуністу Будніку: «*Ваша ідэя… я тут ні пры чым. Я проста рабіў сваю справу, якой займаюся два дзясяткі гадоў, і зусім не думаў пра тое, будзеце вы будаваць калі-небудзь камбінат на балоце ці не. — Апошнія словы прафесар вымавіў з адценнем злосці*». Як вынікае з логікі, падказаная інтуіцыяй (!), сімволіка пластычных мас родная сімволіцы «вінціка». У фінале рамана Галынскі ўсё ж заканчвае кнігу «Хімія торфу», чым набліжаецца да «прававерных» герояў.

Канцэптуальна падобны эпізод ёсць у аповесці Я. Коласа «Адшчапенец»: «*Людзі! Што такое людзі? — запытаў муляр Лапко і сам адказаў: — Гліна! З гліны добры майстар зробіць усё, што хочаш… усё!*». Гледзячы, праўда, хто будзе рабіць гэтае «усё». Бо ёсць творчасць Бога і творчасць д'ябла. Як пісаў В. Быкаў: «*Людзі! Што з імі рабілі і яшчэ чагосьці ад іх чакалі. Усе гады рознага будаўніцтва яны, аднак, не былі мэтай, а толькі сродкам для ажыццяўлення тых вялікіх і не надта разумных, часам надуманых, а то і бязглуздых планаў. Хутчэй матэрыялам, з якога ляпілі розныя прыдуманыя кімсьці фігуры, не дбаючы, а ці трэба людзям тая лепка і тыя фігуры*».

Прыведзеныя прыклады сведчаць пра эстэтычныя магчымасці метафарычнага мадэлявання аб'ектыўнай рэчаіснасці на аснове яе суб'ектыўнай інтэрпрэтацыі.

Паводле Гегеля, боская прырода мовы выяўляецца ў тым, што ў ёй выказваецца больш, чым разумее чалавек, і нават тое, чаго ён зусім не хоча сказаць. Мэтазгодная слова здольна выклікаць да жыцця шэраг нечаканых значэнняў. Праз «падспуд» слоў, піша Г. Гачаў, неадчэпна «валачэцца» пласт матэрыяльна-цялеснага жыцця народа (здаровы сэнс; просты погляд на свет і яго каштоўнасці) і не адпускае ад сябе ніякую думку, ці то духоўна-рафінаваную, ці то, асабліва, казённую. Прыкладам можа служыць маўленне мрыеўскага Самасуя. «Падспуд» часта выяўляецца ў разнастайных варыянтах «народнай этымалогіі». У п'есе Л. Родзевіча «П.С.Х» гаспадар звязаўся з камуністамі, а па словах яго жонкі, з «камяністымі заюрыў...». З аднаго боку, высвечваецца сімволіка каменя (цвёрдасці і холаду), з другога — узнікае сувязь-адштурхоўванне з назвай і стратэгіяй патрыятычнай арганізацыі «прамяністых». Калі ў мастацкіх творах мы знаходзім прастамоўе, адзначае Г. Гачаў, гэта не проста «фарба», а найважнейшы прыём светапогляднага значэння, які «змяшчае свядомасць і пункт назірання на мяжы логік і сістэм мыслення». Часам «падспуд» высвечваецца праз словаўтваральную мадэль. Замест слова «камсамол» у прастамоўі ўжываюцца «канцамол», «кусамол», замест «дэмакраты» — «самакраты». Мы вылучылі некалькі прастамоўных формаў слова «калектыў» (*калакцій*, *калякцій*), якія ўзводзяць яго да дзеясловаў «калаціць» і «калечыць». Пракоп Бурцелік («Межы» С. Баранавых) пагражае сыну: «Я цябе скалектыўлю, я цябе вон выганю! …Мая гаспадарка! <…> Што хачу, тое і раблю над сваёю гаспадаркаю!». Самымі рознымі бакамі для чытача паўстае каламбур, ствараючы эфект сэнсавай двухпланавасці, асабліва ў творах Я. Коласа. У «Адшчапенцы» падкрэсліваецца неабходнасць даць газеце трапнае імя, арыгінальнае, «ідэалагічна вытрыманае». І гэта — «Ленінскі засеў» (засесці — трапіць у што-небудзь так, што цяжка выцягнуць). У вёсцы Затонне ўтвараецца калгас «Хваля рэвалюцыі». Лагічна вылучыць меркаванне, што ад гэтай хвалі вёска «затоне», сыдзе «з яснай явы»... Але ёсць і вёска Загацце (гаць — маркёр бестурботнага пераходу, пераправы).

Аднатыпна дысіміляваныя словы ў творах К. Чорнага — «равалюца», «раквізіца», «рапараца», як і «парапіца» ў З. Бядулі, нясуць адбітак пагрозы. Нават слова «мілярацыя» ў гэтым шэрагу выяўляе «жыццеадмаўленчы» пафас, звязаны з апакаліптычнасцю глабальнай меліярацыі як «антыдрыгвы». Можна разглядаць падобныя моўныя з'явы як кропкі сэнсавага росту (такімі М. Эпштэйн лічыць памылкі друку). Парушэнне звыклай заканамернасці стварае новы сэнс, які не выключае першага, але ўключае яго ў сябе, дапаўняе, утварае з ім новае цэлае. Гэта пралік, які робіцца новай кропкай адліку.

Цяжкасці інтэрпрэтацыі абумоўліваюцца складанасцю зместу, выразнай супярэчлівасцю аб'екта. Аценкі этычнага плана могуць абумоўліваць канфлікт інтэрпрэтацый (дзе мяжа паміж дабром і злом?..). Таму дарэчным будзе рэзюмаваць словамі М. Прышвіна, пісьменніка і мысляра: «Мудрэц сказаў: "Бойся філасофіі". І вось чаму: гэта значыць бойся думаць без удзелу сэрца (без любові). І добра сказана, што "бойся", — гэта значыць: думаць трэба, думай, але бойся!» Бойся занядбаць ісціну, што прадмет інтэрпрэтацыі — не сума кампанентаў, а цэласнасць твора.

**Алена БЕЛАЯ**

# Чатыры пытанні

## несвяточная апытанка,

**у якой узялі ўдзел прыўкрасныя прадстаўніцы літаратуры Дагестана, Іспаніі, Беларусі ды Украіны. Мы не будзем, прыкрываючыся святам, казаць пра тонкае светапачуванне жанчыны-творцы, пра яе далікатнасць і пачуццёвасць… А пра што мы кажам, дык гэта пра гендарную няроўнасць, на якую зручней закрыць вочы; пра вайну, якую ў стэрэатыпна-далікатны свет жанчыны прыносяць мужчыны; пра сілу, смеласць, адчайнасць і талент жанчыны, чыя найбліжэйшая сяброўка — паэзія.**

**1.** Жаночая паэзія — з'ява, якую часта абмяркоўваюць у літаратурным асяроддзі многіх краін. Што самае галоўнае, на ваш погляд, жанчына-паэт можа адкрыць чытачу?

**2.** Ці з'яўляецца творчая разняволенасць аўтара сведчаннем «прагрэсіўнасці» літаратуры? Наколькі шчырай у інтымным плане, на ваш погляд, можа быць добрая жаночая паэзія?

**3.** Якія гендарныя праблемы закранаюцца ў вашай айчыннай літаратуры?

**4.** Ці змяняецца з цягам часу ўяўленне пра жаночы ідэал у вашым грамадстве? Як гэта адлюстроўваецца ў літаратуры?

*«Жанчына-паэт можа так раскрыць свет глыбока асабістых перажыванняў, як ніхто з мужчын»*



**Міясат МУСЛІМАВА.** Паэтка, перакладчыца, літаратурны крытык. Нарадзілася ў сяле Убра Ласкага раёна, у Дагестане. Скончыла Дагестанскі дзяржаўны ўніверсітэт, філолаг. Дацэнт кафедры методык выкладання рускай мовы і літаратуры ў Дагестанскім дзяржаўным універсітэце. Пачала пісаць пасля беланскай трагедыі. Аўтар шэрагу паэтычных зборнікаў (на рускай мове), старшыня дагестанскага аддзялення Саюза расійскіх пісьменнікаў.

**1.** Жаночая паэзія існуе незалежна ад таго, наколькі гендарны пачатак значны для самога аўтара ці акцэнтуецца ім у той ці іншай ступені. Імя аўтаматычна настройвае нас на тыя ці іншыя спадзяванні. Тэматыка, характар падачы матэрыялу, інтанацыя, вобразная сістэма — ва ўсім можа сцвярджацца ці выдаваць сябе жаночая паэзія. Жанчына-паэт можа так раскрыць свет глыбока асабістых перажыванняў, як ніхто з мужчын. Ступень адкрытасці ў мужчын больш табуяваная, на мой погляд, бо мужчынскае заўсёды асацыюецца са стрыманасцю, сілай. Той, хто жадае быць моцным, не можа дазволіць сабе быць цалкам адкрытым, бо ў гэтым ёсць хоць і смеласць, але і безабароннасць.

Мужчыны не жадаюць быць слабымі, уразлівымі, таму кампенсуюць большую закрытасць згушчанасцю вобраза ці недаказанасцю. У дагестанцаў выраз «мець тонкую душу» ў дачыненні да мужчыны ўспрымаецца як негатыўная характарыстыка, у адрозненне ад еўрапейскай традыцыі. Тонкасць пачуццяў і адкрытасць іх выяўлення — прыкмета слабасці мужчыны, яны асуджаюцца ў грамадстве, бо ў нашай культуры апяваецца дзёрзкая, гераічная асоба. З іншага боку, калі мы чытаем не эпас, а тэксты лірычных песень пра каханне, там такая пяшчота і шчымлівая праніклівасць, што нават здзіўляешся: высвятляецца, што мужчынская душа можа быць і такой у добрым сэнсе «жаноцкай». Таму, па вялікім рахунку, няма пачуццяў, напэўна, якія адрозніваліся б у жанчыны і мужчыны, ёсць асаблівасці іх выяўлення і большае ці меншае падпарадкаванне ім.

**2.** Не звязвала б творчую разняволенасць аўтара з «прагрэсіўнасцю» літаратуры, хаця разняволенасць ломіць традыцыю, але не заўсёды новае — прыкмета аднаўлення. Шчырасць паэзіі ў інтымным плане мае, на мой погляд, свае межы, але яны звязаны не столькі са зместам, колькі са спосабам падачы. Цнатлівасць і недаказанасць заўсёды сілкуюць паэзію, а адваротнае можа выклікаць адмаўленне. Надта тонкая грань — паміж разняволенасцю як пошласцю і патаемнай даверальнасцю. Эстэтычны густ — таксама маральная катэгорыя. Тэарэтычна я маю дастаткова шырокія погляды, але сама вельмі жорстка стаўлюся да ўласнай шчырасці ў вершах. Яна страшыць, да яе імкнешся, але я аддаю перавагу шыфраванню, мае вершы не вельмі адкрытыя. Гэта атрымліваецца міжволі, без устаноўкі менавіта так ствараць вершы.

**3.** Я не настолькі ўважліва чытаю ўсю дагестанскую літаратуру, таму буду казаць пераважна пра паэзію. Каханне паміж мужчынам і жанчынай — адзіная заўсёды актуальная тэма ў паэзіі. Калі ў дагестанскай класіцы пра яе пераважна пісалі мужчыны, то сёння жанчыны ў звароце да гэтай тэмы і яе раскрыцці пайшлі далей за мужчын. Смеласць, безагляднасць, адкрытасць у выяўленні пачуццяў, рэфлексіўнасць — характэрныя рысы жаночай паэзіі.

**4.** Уяўленне пра ідэальную жанчыну змяняецца ў грамадстве, але нязменнымі застаюцца галоўныя патрабаванні: жанчына — гэта перш за ўсё маці, цэнніцца яе самаахвярнасць, адданасць сям'і, пачуццё гонару, паважлівае стаўленне да людзей. Маці — узор, мера каштоўнасцей, таму традыцыйна маці заўсёды апяваюць больш, чым каханую. Сёння паэзія больш асвойвае тэму жаночага самавыяўлення, жаночага погляду на свет.

*«Добрая жаночая паэзія можа быць наколькі заўгодна разняволеная, нават вульгарная»*



**Анхела Эспіноса РУІС.** Нарадзілася ў горадзе Малага (Іспанія), вучыцца ў Варшаўскім універсітэце, на кафедры беларускай філалогіі. Валодае дзясяткам моў, адна з якіх — беларуская. Плённа супрацоўнічае з беларускамоўнымі выданнямі. У 2015 годзе быў выдадзены зборнік беларускамоўных вершаў Анхелы Эспіносы Руіс «Раяль ля мора».

**1.** Творчасць ёсць свабода. Можна нават сказаць, што паэт (альбо паэтка, калі гэта аж так прынцыпова) толькі ў сваёй творчасці пачуваўся свабодным цягам розных эпох, войнаў, крызісаў. Хай і пад псеўданімам (у выпадку жанчын — часам пад мужчынскім), хай і з патрэбай прыдумляць з кожным вершам новы спосаб падмануць паўсюдную цэнзуру. Менавіта з гэтае прычыны я не люблю, калі крытыка ўспрымае «жаночую паэзію» як нешта іншае і па дэфольце нешта горшае, другаснае, выклятае на меншую публіку і нізкую вартасць. Паэзія не такая. Музы так не робяць. Колькі разоў нам, смяротным, даказваць тое, што вечная Сапфо даўно паказала ўсяму свету? *Quo usque tandem?*

З іншага боку, не можам ігнараваць факт, што ўспрыманне творцаў грамадствам не заўжды эквівалентнае Паэзіі з вялікай літары і што развіццё феміністычных ідэй — добрая навіна для паэтак, якія жадаюць публікавацца пад сваім імем і каб іх успрымалі сур'ёзна. Для жанчын, якія хочуць быць самабытнымі ў сваёй жаноцкасці і каб жаноцкасць разглядалася як варыянт лірычнай нормы. Паводле мяне, самае галоўнае, што таленавітая паэтка можа ўнесці ў літаратуру, — яе асабістая перспектыва. Жыццёвы досвед фарміруе кожнага і кожную з нас і як чалавека, і як творцу. Быццё жанчынай, натуральна, — уплывовы фактар у тварэнні асобай. Паэзія не дыскрымінуе, але жанчыны пастаянна сутыкаюцца з дыскрымінацыяй. Дыскрымінуюць рэдактары, выдаўцы, чытачы. Адна з галоўных задач жаночае паэзіі — данесці да чытачоў свой пункт погляду. Захапленне вобразамі, пачуццямі і ідэямі працуе толькі на карысць разумення відавочнага: лірычная душа ёсць лірычнаю, незалежна ад полу, расы, рэлігіі, узросту. Паэзія ўспрымае ўсіх сваіх дзяцей.

**2.** Таленавіты паэт (таленавітая паэтка) можа пісаць добрыя тэксты на любую тэму. Разняволенасць — асаблівая сексуальная — у паэзіі можа намякаць на змены ў сацыяльных каштоўнасцях. Жаночая, у гэтым выпадку, яшчэ выразней, чым мужчынская. Затое добрая эратычная паэзія існавала заўжды: дастаткова згадаць пра біблейскую Песню песняў альбо лесбійскую лірыку старажытнага Кітая ці тую ж самую Сапфо. Добрая жаночая паэзія можа быць наколькі заўгодна разняволеная, нават вульгарная. Якасць тэкстаў залежыць ад тэхнічнага майстэрства паэткі, ад вобразнасці, ад наватарства і сотні іншых параметраў. Для прыкладу хацела б вам нясціпла прапанаваць адзін свой эратычны верш. Не таму, што лічу сябе вялікай паэткаю, а таму, што верш не горшы і не лепшы за мае «прыстойныя» творы, а адрозніваецца выключна сваёй эратычнай, разняволенай тэматыкай.

### Пчала

*У самым сэрцы, ў самым цэнтры цела*
*Ў мяне вясною кветка заквітнела,*
*Збірае ранкам кропелькі расы,*
*Духмяны водар дорыць уначы.*
*Праз цеплыню растаў нарэшце лёд,*
*І прыляцела ты, пчала, па мёд,*
*Бо дотыкі твае — галодны рой,*
*Прырода нараджаецца табой.*
*Тваіх пяшчотных крылаў брыза дзьме,*
*Цячэ нектар салодкі для цябе.*
*Ляціш далей, упэўнена, прыгожа,*
*Нясеш цудоўнае з сабою збожжа.*
*Збірай сакральны сок, мая пчала,*
*Табой настала жарсная вясна!*

**3.** Датычна іспанскіх літаратурных рэалій мушу сказаць, што праблема «жаночае паэзіі», з майго пункту гледжання, даўно перажытая. З часоў сярэднявечча жаночае любоўнае лірыкі ніхто не здзіўляецца жанчынам-паэтам. Вядома, пісьменнасць сярод простых (у сэнсе не арыстакратычных) жанчын паявілялася з часам (сярод мужчын, дарэчы, аналагічна), як і з'яўляліся новыя магчымасці друкавацца і адыходзіла дыскрымінацыя ў грамадстве, але жаночая паэтычная творчасць існавала нават раней, чым сфарміравалася сучасная іспанская мова, і развівалася разам з мужчынскаю. Паколькі адзін з двух самых выбітных іспанскіх рамантыкаў — жанчына па імені Расалія дэ Кастра, мала калі ў Іспаніі дыскутуецца «жаночая паэзія» як нешта адрознае, як і няма падзелу паводле ўзросту паэтаў альбо сацыяльнай групы, напрыклад. Важна, затое, адзначыць, што апошнімі гадамі даследчыкі шукаюць і публікуюць творчасць паэтак, якія былі ахвярамі дыскрымінацыі ў свой час і таму не ўвайшлі ў наш літаратурны канон. Гэтыя даследаванні даказваюць яшчэ раз, што вялікая Паэзія любіць усіх, хто ёй аддаўся сэрцам і пяром.

**4.** Відавочна, жаночы ідэал змяняецца з кожнай эпохай, у кожным грамадстве. Іспанія, вядома, не выключэнне. Хопіць адное экскурсіі ў музей, каб зразумець, наколькі радыкальна могуць адрознівацца ідэальныя жаночыя твар і фігура таго ці іншага стагоддзя. У літаратуры можам смела гаварыць пра падобную з'яву. Змяняюцца людзі і іх лад жыцця, але сутнасць лірыкі (тройка: прырода — каханне — смерць) застаецца з паэтамі і паэткамі ўсіх грамадстваў, пагляддаў, эраў. Кожная чалавечая душа адчувае свет па-свойму: баліць радзіма, катуе каханне, захапляе зорная ноч. Творчая душа апісвае гэтыя ўражанні ў сваёй творчасці. Можам толькі марыць пра дзень, калі ўсе мы, у гармоніі з Паэзіяй, зможам сесці чытаць разам без дыскрымінацыі і нянавісці, з павагай і любоўю.

# паэт(К)ам



*«Ніводная жанчына, якая зведала мацярынства, не можа хацець вайны»*



Фота Dirk Skiba.

**Наста КУДАСАВА.** Паэтка. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове. Скончыла рагачоўскую сярэднюю школу № 5, філалагічны факультэт і магістратуру БДУ. Аўтар кніг паэзіі «Лісце маіх рук» (2006), «Рыбы» (2013), «Маё невымаўля» (2016) і шэрагу публікацый у розных перыядычных выданнях. Творы перакладаліся на рускую і балгарскую мовы.

**1.** Я не думаю пра тое, што я жанчына, калі пішу вершы. Гэтаксама, як не думаю пра свой узрост, нацыянальнасць або сексуальную арыентацыю, напрыклад. Я магу адчуваць сябе сасной, мохам, птушкай, рыбінай, ветрам — кім заўгодна. Таму азначэнне «жаночая паэзія» для мяне дагэтуль не вельмі зразумелае. Адзінае, што я магу прыняць, гэта што жаночая паэзія — паэзія, напісаная жанчынай (паводле полавых прыкмет). Ці магу я даць чытачу штосьці асаблівае ў адрозненне ад калег-мужчын? Пытанне для мяне рытарычнае. Тым не менш я ўсведамляю, што жыццё ў целе жанчыны пэўным чынам закладае ўва мне нейкія псіхалагічныя і сацыяльныя асаблівасці, якія не могуць не адбівацца і на творчасці, у тым ліку.

Сённяшнія жанчыны больш смелыя, трывалыя і моцныя, чым мужчыны, мне падаецца. І ў творчасці, і ў жыцці. Ці добра гэта, цяжка сказаць. Але так сталася. І яшчэ адзін важны складнік жаночай паэзіі (калі ўжо пагадзіцца на гэты тэрмін) — гэта вялікая пяшчота, прага любові і міру. Мне здаецца, ніводная жанчына, якая зведала мацярынства, не можа хацець вайны, гэтым, як правіла, хварэюць мужчыны. Магчыма, сёння гэта і ёсць галоўнае, што я магу даць чытачу як жанчына-паэт: я прашу любові і міру, я кажу і буду казаць пра гэта ўсімі даступнымі мне сродкамі.

**2.** Творчая разняволенасць — гэта найперш шчырасць. І тут зусім няважна, пра што ты пішаш. Пражыць у вершы жыццё каменя, дарогі або суніцы — гэтак жа інтымна, як і апісаць самыя патаемныя падрабязнасці чалавечага побыту. Галоўнае — *навошта* ты гэта робіш у сваёй творчасці. Бо можна імітаваць разняволенасць дзеля стварэння «прагрэсіўнасці», «моднасці», можна зрабіцца наўмысна аголенай, падняць самыя забароненыя тэмы… Але важна памятаць, *навошта* ты гэта робіш і ці шчыра гэта. Ці гэта толькі дзеля большай гучнасці, заўважнасці і эпатажнасці? Многія думаюць, што ў наш час без іх ніяк не абысціся, інакш цябе не пачуюць. Але самыя важныя рэчы — простыя рэчы. І для таго, каб іх выказаць, дастаткова мінімальных сродкаў, зусім неабавязкова «кідацца ва ўсе цяжкія».

Абсалютна шчырай ва ўсіх планах мусіць быць любая творчасць. Галоўнае — глядзець на свет светлымі, спакойнымі вачыма і несці любоў, а не разбурэнне.

**3.** Напэўна, тыя ж, што і ў іншых літаратурах: шлях жанчыны да сябе, да адкрыцця жаночага ў сабе, прыняцця сябе і свайго цела… Жанчына жадае быць сабой — такой, як яна ёсць, а не ўціснутай у рамкі патрыярхальнага грамадства. Асаблівa шмат гэтыя тэмы разглядаюцца ў сучаснай паэзіі — у вершах Вальжыны Морт, Юлі Цімафеевай, Вольгі Гапеевай, Валянціны Аксак, Ганны Комар і інш.

З прозы найбольш моцнае ўражанне апошніх гадоў — кніга Марыі Роўда, дзе паказаная гераіня, якая вырастае паступова да ўсведамлення ўласнай моцы, каштоўнасці і свабоды, вучыцца жыць для сябе і пачувацца паўнавартаснай, незалежна ад стасункаў з мужчынамі.

Гэтыя ж тэмы развівае ў сваіх творах вядомая пісьменніца Алена Брава.

**4.** Натуральна, жанчыны становяцца больш адкрытымі і смелымі. І ў жыцці, і ў літаратуры. Навакольны свет дазваляе гэта ўсё больш. Усё менш забарон, усё больш магчымасцяў для ўсіх быць рознымі, жыць так, як хочаш. Пры ўсіх недахопах сучасная цывілізацыя дазваляе мне атрымаць адукацыю, апранацца так, як я хачу, і мець уласнае меркаванне па любым пытанні. Жанчыны ўсведамляюць ужо сваю сілу і магчымасць будаваць лёс незалежна ад чыйсьці правілаў. Паступова жанчыны «выходзяць з-пад кантролю» ў добрым сэнсе гэтага слова. Яны ўжо не такія безабаронныя і маўклівыя, якімі мы прывыклі іх бачыць у класічнай літаратуры.

Гэтая тэндэнцыя мне вельмі даспадобы. Па-мойму, мы маем вельмі моцную і яркую жаночую літаратуру ў сённяшняй Беларусі, і лепшае яшчэ наперадзе.

*«Паэзію ва Украіне ствараюць пераважна жанчыны»*



**Алена СЦЕПАНЕНКА (ПРЫЛУЦКАЯ).** Паэтка, перакладчыца, журналістка, аўтар зборнікаў «Перадчуванне Авалона» (1999), «Кароткая меса да другога прышэсця Дантэ» (2002), «Трэцяя Атлантыда» (2005), «Чацвёртая радасць» (2014). Суарганізатар і ўдзельнік разнастайных творчых акцый і фестываляў.

**1.** Жанчына-паэт можа адкрыць чытачу цэлы свет — і перш за ўсё мару. Менавіта паэтка Алена Пчілка крыху больш за 100 гадоў таму прыдумала і ўвяла ва ўкраінскай мове ва ўжытак слова «мрія» і «мріяти» ў сучасным сэнсе. Усяго нейкіх сто гадоў — а як яны паўплывалі на нашае жыццё! А яшчэ — «мистецтво», «переможець» і іншыя, без якіх сёння немагчыма ўявіць украінскую мову.

Яе дачку, паэтку і драматурга Лесю Украінку, Іван Франко назваў «адзіным мужчынам ва ўкраінскай літаратуры» — і ў той час гэта было вялікім кампліментам. У яе тэкстах жанчына паўстае не палонніцай лёсу ці пачуццяў да мужчыны, а перш за ўсё чалавечай істотай, свабоднай ад гендарных стэрэатыпаў, якая выбірае самастойна будаваць свой лёс і несці адказнасць за выбар. Калі прасачыць развіццё ўкраінскай літаратуры з канца XIX стагоддзя і да гэтага часу, заўважны значны рост колькасці жаночых імёнаў сярод літаратурных (і не толькі) персаналій. Зараз, на маю думку, паэзію ва Украіне ствараюць пераважна жанчыны. Тое ж датычыцца і прамоцыі, і кнігавыдання: згадаем выдатную паэтку Мар'яну Саўку, заснавальніцу аднаго з найбуйнейшых ва Украіне «Видавництва Старого Лева», або паэтак-валанцёрак на Данбасе, арганізатарак літаратурных конкурсаў, прэмій і фестываляў. Спіс можна працягваць.

Жанчыны-паэты сёння — гэта носьбіты актыўнай грамадзянскай пазіцыі, шырока эрудзіраваныя і добра адукаваныя, чые інтарэсы не замыкаюцца на ўласнай паэзіі, а тэксты — на чыста жаночых тэмах. У іх творах гучаць і любоў, і вера, і вайна, і смерць, і роды — але з пазіцыі іх асабістага досведу і перажыванняў, не арыентаванага на ўспрыманне (або неўспрыманне) мужчынскай аўдыторыяй. Галіна Крук, Кацярына Калытка, Кацярына Бабкіна, Ірына Шувалава, Баглана Маціяш, Алеся Мамчыч — далёка не поўны пералік такіх паэтак.

Але тэрмін «жаночая паэзія» распаўсюджваецца і на іншы від вершаскладання. Распаўсюджаны стэрэатып: жаночая паэзія гэтак жа адрозніваецца ад уласна паэзіі, як тэхнічная вада ад вады пітной. І шмат у чым гэтае шавіністычнае сцверджанне падтрымліваюць самі жанчыны: большасць з тых, хто пазіцыянуе сябе як паэтэсы, пішуць ванільныя споведзі пра палкае каханне і шалёную жарсць да самазабыцця ў стылі статусаў з сацыяльных сетак. Звычайна і найбольшую папулярнасць атрымліваюць таксама ў сацсетках. Самыя вядомыя часта аб'ядноўваюцца ў гастрольныя брыгады і збіраюць залы ў начных клубах і па фестывалях. Кола іх літаратурных інтарэсаў звычайна не выходзіць за межы ложка або кухні, а мова — за межы шаблонаў. Аднак гэта стварае ілюзію ўтульнасці і «свойскасці» для аматараў падобнай творчасці. Паэткі ў сваіх вершах горача змагаюцца, сцвярджаючы сваю жаноцкасць, яны нясуць сваю жаноцкасць як меч і шчыт, і перамагаюць, не істотна, каго і што: мужчыну, плямы на абрусе ці найскладанейшы рэцэпт сочыва з якога-небудзь экзатычнага фрукта. У інтэрв'ю з такой жанчынай неабавязкова падаецца ўзор яе творчасці, але абавязкова адзначаецца, што яна добрая маці, палкая каханка і цудоўная гаспадыня, і «вось вам рэцэпт фірмовай піцы ад паэтэсы». Што новага можа сказаць гэтая жанчына? Звычайна нічога, аднак і яе мэтавая аўдыторыя нічога новага не патрабуе. Галоўнае — каб прыгожа і ў рыфму (нават калі гэта «кроў — любоў» ці «жанчына — мужчына»), бо ўсё, што «не ў слупок» — не паэзія.

**2.** Калі «прагрэсіўнасць» літаратуры ацэньваць па яе раскаванасці, то сараматныя песні апынуцца па-за канкурэнцыяй. Калі ж сур'ёзна, то для добрай паэзіі проста не можа існаваць нейкіх «межаў шчырасці». Для добрай паэзіі не існуе ніякіх абмежаванняў або рамак, на маю думку. Калі ж казаць пра раскаванасць інтымнай жаночай лірыкі, то, паўтаруся, любой сучаснай паэтцы складана пераўзысці ўзоры народных сараматных песень. Хоць спробы былі і працягваюцца з вялікім ці меншым поспехам. Зараз дзяўчыны робяць з гэтага неблагія перформансы — і ёсць публіка, якой такая шчырасць даспадобы.

**3.** Пытанне гендарнай няроўнасці даўняе — не буду пераказваць змест народных песень, успамінаць цяжкі лёс жанчын у літаратуры XIX стагоддзя. Гэта ўсё бясконцая чарада трагедый праз сацыяльнае і эканамічнае бяспраўе «слабага полу». Першыя ўдалыя спробы феміністычнага погляду на жанчыну і яе выбар у паэзіі належаць таксама Лесі Украінцы. У грамадстве часоў Незалежнасці толькі ў апошнія гады пачалі больш-менш актыўна падымаць і прамаўляць пытанні гендарнай няроўнасці, пытанні траўмы як наступства побытавага гвалту, вайны, сексуальнага гвалту і г. д. Ці ледзь не першай спробай такога прагаворвання стала анталогія жаночай паэзіі «З ахвяр у ліквідатары», якая выйшла ў 2011-м. Усе сем аўтарак, сабраных пад гэтай вокладкай, так ці інакш асвятлялі тэматыку гендарнага гвалту — часам на мяжы альбо і па-за межамі прыстойнасці. Але шырокага розгаласу кніга тады не атрымала. А ўжо праз тры гады Рэвалюцыя Годнасці, Майдан і Данбас ускалыхнулі грамадства і зноў выштурхнулі на паверхню гэтую «нязручную» для многіх тэму. Бо АТО і сітуацыя на Данбасе спарадзіла мноства ахвяр гвалту і траўмаў, у тым ліку гендарных. Запушчаная летась украінскай журналісткай Настай Мельнічэнка хваля шчырых, балючых гісторый пад тэгам *#яНеБоюсьСказати* паказала, наколькі востра стаіць праблема гендарнага гвалту і ўласна гвалту як такога ў нашым грамадстве і наколькі востра грамадства мае патрэбу ў такой адкрытасці. Што тычыцца тэкстаў, гэта перш за ўсё зборнік Любы Якімчук «Абрыкосы Данбаса», «Бабін Яр» Марыяны Кіяноўскай, вершы ІїКівы (паэткі-перасяленкі з Данецка) ды інш.

**4.** Складана адказаць... Успамінаю свае жаночыя ідэалы і губляюся: Сара Конар? Маці Тэрэза? Алеся Жураўская (медык-валанцёрка, параненая на Майдане)?.. Што тычыцца грамадскага ідэалу, тут яшчэ складаней. Украінскае грамадства зараз вельмі неаднастайнае. Адна частка існуе ў рэаліях вайны, якая доўжыцца ва Украіне ўжо больш за тры гады і забрала жыцці больш чым 10 000 чалавек, яшчэ больш за мільён засталіся без дома. Тут ідэал — жанчына-сябар, жанчына-воін, жанчына-валанцёр, жанчына-арганізатар. Разумная, моцная, цягавітая, усведамляе сваю адказнасць перад краінай і грамадствам.

Іншая частка старанна робіць выгляд, што ўсё добра, купляе дамы-машыны-яхты і не забівае галаву чужымі праблемамі. Адпаведна, ідэалы ў такіх людзей дыяметральна процілеглыя. Тут дамінуе (і тэлебачанне падкрэслівае гэты стэрэатып) жанчына-«аздоба святочнага стала». Добрая, дагледжаная, дорага апранутая — такі сабе каштоўны аксесуар. Што тычыцца ідэалу ў паэзіі, не ўпэўненая, ці варта ўвогуле зараз аперываць такімі паняццямі, як «ідэал». Як па мне, паэзія яго перарасла.

**Падрыхтавалі Алеся ЛАПІЦКАЯ, Наста ГРЫШЧУК**



Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ

## Вясна паэта

Болей тыдня ён засмучоны.
Што напіша, закрэсліць ураз.
А за вокнамі пошум зялёны.
Поўны хмелю вясновы час.
Неслухмяныя думкі-словы
Не снуюцца ў вершы ніяк.
Сказ… Другі…
— Не тое, не нова…
Ямб. Харэй. Амфібрахій…
— Брак!..
І тлустую ставіць кропку.
— Не натужся, выдыхся, брат…
Адвязаў паланіцу-лодку.
Астравок і бярозак рад.
Над вадою русалкамі івы
Валасы распусцілі свае.
Абудзіліся ў сэрцы парывы,
Думкі стройна пайшлі ў галаве.
— Эх, шкада, што не ўзяў блакнота,
Колькі рыфмаў і добрых слоў!
І, прыўзняты думак палётам,
Ён паспешна пакрочыў дамоў.
Пад уладаю музы вяснянай
Чуйна білася сэрца яго:
— Толькі б хто незнарок, нечакана
Не парушыў настрою майго!..
Да акна, на ўлюбёнае месца.
Пасвятлеў, ажывіўся пакой.
Паліліся радкі з-пад сэрца…
Будзе верш — значыць, будзе настрой.

## Забяры мяне, мама!

Прысніла маму дзяўчынка:
Коскі ёй запляла,
Па вузкай роснай сцяжынцы
На луг яе павяла.
Як пахнуць трава і кветкі,
Дзівосна звоніць жаўрук,
А конік рухавы гэткі,
Ляцяць матылькі да рук.
А мама, цяжка паверыць,
Не пахне дымам, вінэм,
У чыстай сукенцы шэрай,
Як некалі, так даўно!
Руку працягвае мама:
— Дачушка, пойдзем дамоў.
Як толькі прыйшлі да брамы —
Прапала мама! І зноў
Дзетдом. І сябры, сяброўкі…
— Ішла ж я з мамай сама, —
Рука «ляціць» да галоўкі —
Косак на ёй няма.
— Няпраўда! Усё ў падмане.
Ізноў мама толькі ва сне!
Калі ж гэты сон явай стане
І прыйдзе яна па мяне?..
Дачка матулю гукае —
І рэха кругам ляціць.
Як доўга яе чакае.
А маці, напэўна, «спіць».

## Я шукала радасць…

Я шукала радасць
у каханні,
Я шукала радасць
у сустрэчах.
Са сваім натхненнем-
хваляваннем
Дазваляла сэрцу
супярэчыць.
Не «лавіла» тэмы
і задумы.
Спадзявалася сустрэць іх
«потым»…
Ацякае сэрца маё
сумам
І кладзе мінор
на словы-ноты.
Праімчалася вясна
экспрэсам,
Прыхапіўшы лета
на падножку.
Прывыкаю да бяздушных
стрэсаў
І за вернасць паважаю
кошку.
Аддаляюцца сябры,
сяброўкі,
Я губляю іх
на скрыжаванні.
Палыну на вуснах
прысмак горкі.
Страты. Неспакой.
Расчараванні.
Заступнік творчасці,
пабудзь са мною,
Натхненню, марам
згаснуць не давай.
Не прымітыўнай,
мудрай навізною
Мае задумкі-творы
акрыляй.

## Не звані да мяне…

Не звані, не звані да мяне.
Што нясеш ты ў запозненым слове?
Майго сэрца яно не кране,
Чуйнай хвалі яго не зловіць.

Не звані. Не гукай ты мяне.
Толькі золкі эскіз ад былога.
Не звані — я не выйду, не.
Хай твая будзе светлай дарога.

Не звані. Не шукай ты мяне.
Адцвілі, адшумелі вёсны.
Восень ветрана вербы гне,
Заснавала самотныя кросны…

Не звані, не заві ты мяне,
Не прыходзь у мае летуценні.
І ні ў чым нас не папракне
Ні тваё, ні маё сумленне.

## Словы-«стрэлы»

Ідуць хлапчукі са школы.
Які ж іх лексікон!
Як быццам стрэлы-ўколы
У сэрца, душу і ў скронь.
— З якога вы класа, дзеці?
— Ну, з пятага, — быў адказ.
— Багаты, лёгка прыкмеціць,
Ваш слоўнікавы запас.
І кожны з запалам гэткім
Такія опусы нёс!
Здавалася, звянуць кветкі
І сонца ўпадзе з нябёс.
Ляцелі словы і фішкі…
Пытанне тут не адно:
Якія чытаюць кніжкі,
Якое глядзяць кіно,
Ці добрае акружэнне —
Суседзі, сябры, бацькі,
Якія ў дзяцей памкненні
І іх дабрабыт які?..
Пытанні, пытанні, пытанні.
Складаней і ўсё часцей…
Вядзіце на пакаянне
Такіх «культурных» дзяцей.

## Ідзе па зямлі падлетак

Ідзе па зямлі падлетак
З ранцам мар і надзей,
Яшчэ не акрэсленай мэтай,
З адкрытым сэрцам ідзе.
У справядлівасць верыць,
У праўду і дабрыню.
Па нашых учынках мерыць
Жыццё ў шырыню, даўжыню.
Натрапіць на подласць, здраду —
Бунтуе і сэрца, і кроў.
Падлетак ідзе па параду
Цяпер не да нас — да сяброў.
І часта, у азлабленні,
Пакрыўджаны робіць «пратэст»…
І лаем мы пакаленне
Прызнання віны замест.
Ідзе па зямлі падлетак
З ранцам мар і надзей,
Яшчэ не акрэсленай мэтай —
З намі побач ідзе.

## Жанчына дзіця чакае…

Жанчына дзіця чакае,
Жаданага першынца.
У думках яго гукае,
Удалага малайца.
На твары нешта святое,
Таемны бляск у вачах.
Нязведанае, трапяткое
Сніцца ёй па начах.
Дзяўчынка? Хлопчык? — не знае.
Хто? — усё роўна ёй.
Шчаслівая, засынае
З думкай-песняй сваёй.
Чароўную калыханку
Спявае яе душа,
Гуллівую забаўлянку
Для роднага малыша.
Жанчына дзіця чакае.
Пра гэта помніце ўсе!
Увага, адказнасць якая —
Жанчына жыццё нясе.

## Роднае поле

…Не гавары,
Не гавары!
Я дадому пайду,
Дзе бацька
Арэ на зары
Роднае поле сваё,
Сее жыта на ім
І авёс,
Я з маленства за ім
Па тым полі хадзіў
І згадваў
Свой лёс.
Поле са мною
Не можа расстацца.
Мы
Як адзін
Яго каласок.
Сонца над намі.
Гэта —
Нашае сонца.
Хмарка над намі.
Гэта —
Нашая хмарка,
Як Божы дзянёк.
Не гавары.
Не гавары!
Я дадому пайду.



Міхась МАМОНЬКА

***

Сеяў, касіў,
Жаў, малаціў,
Жыў-пажываў,
Як песню спяваў.
І годы сплывалі,
Як у Прыпяці вада,
І табе Бог
Сілу даваў,
Сілы было
Не шкада.
Быў маладым,
Рос, як дуб,
І ўшыр, і ў неба.
І ў кожнага
У руках
Быў
З твайго поля
Кавалачак хлеба.
І сёння,
На схіле гадоў,
Твой колас
Яшчэ цвіце,
Загоны твае
Не зараслі травой,
Шуміць збажына
На Божай вярсце
Воляй тваёй.
І будзе заўсёды
У полі трымацца
Твой след,
Твой
Колас звінець.
І сонца над ім
Тваімі вачыма
Будзе
Скрозь час
Глядзець.

## шлях

што такога нясу я ў сваіх руках,
чым апраўданы мой абязвечаны
шлях —
шлях без вечнасці? злом
перспектывы надзей —
яна крыжам сыходзіцца
на далягліядзе маіх грудзей.
крыж адказнасці болем ляжыць
на маіх плячах
за пытанні, адказ на якія —
шлях.

## маргінал

у зоне тэктанічных
сутыкненняў
дзе бой трымаюць лініі жыцця
агонія ад самапазбаўлення
гарыць агменем самаадкрыцця

без сэнсаўтваральнае задачы
душа бы дрэва з выдраным
карэннем
ёй цяжка навучыцца больш
не значыць
нічога па-за дыскурсам
значэнняў

паграза маргінальная
свядомасць
ў расколінах структур
энергетычных
пакутлівая самадастатковасць
не хоча ні за што больш
учапіцца

за радыусам сілы прыцягнення
прыцяг адзіны
да сябе самога
у змрочным гушчары
безнапрамлення
адзін напрамак
да сябе самога

***

я помню сваё карэнне
увязлым у пазалюстэр'е,
завязаным пазавузламі,
глыбокімі пазаснамі.

я помню сваё галінне
раскінутым чорным крыллем,
завітым змяінымі танцамі,
разблытаным белымі пальцамі.

я ведаю пра далёкае,
што сочыцца прапратокамі,
ўпадае ў прапрадоннае,
у мора — у прапрароднае.

у праўдзе сваёй упартая,
я раем тваім праклятая!
паклікана божаю воляю
цябе спакушаць недазволеным.

я помню той плод багавейлівы,
намацаны пальцамі белымі.
і шоргат крыла па-за намі,
і рай, які знік пад нагамі…

## поўня

поўня.
бязлітасна поўныя воды азёр
божаплынный прыроды.
абоймы начэй паўназорных
і поўнагрудной асалоды
уздыхі. камень-тагацвет, поўны
белым агнём да краёў і да болю…
…да болю глыбокія воды майго
неспакою.

ночу
крышталына відушчыя вочы
абуджаных душаў жаночых
скрозь немарач лёсу брукуюць
жамчужныя сцежкі, каб крочыць



Кацярына МАССЭ

на поўнач святымі паглядамі —
на паўналецце свяціла, дзе сіла
начных абразоў нас адорвае
таемствам ксцінаў.
мама!
ад ночы да рана разгорнена
сэрца тваё жыцядайнаю
ранай,
сівым бласлаўленнем —
у ім нашыя крылы
прымаюць гаючыя ванны.
набрыньваюць грудзі пустэчы
тваім малаком да бяскраю —
напой чуйнавання з самой
сябе чэрпае поўня…
…і гэтак сябе напаўняе.

словы.
да болю бязмоўныя воды
азёр божаплыннай прыроды.
абоймы бяззорных начэй
і нямой асалоды
ускрыкі. камень-тагацвет,
поўны чорным агнём
наталення…
…бязлітасна мужныя словы
майго нараджэння.



Зінаіда ДУДЗЮК

# Апантаная

*Апавяданне*

Яе звалі Верачкай. Здаецца, інакш і нельга было называць гэтую тоненькую, усмешлівую, з вострым, кароткім, як у вераб'я, носікам дзяўчыну, падобную да падлетка. У групе праекціроўшчыкаў-электрыкаў яна была самая маладая, але з работаю спраўлялася добра. Працавала лёгка і хутка, можа, яшчэ і таму, што кіраўнік групы Асан Тулкібаевіч Сатаеў быў чалавек паблажлівы і добры. Сваіх падначаленых асабліва не дапякаў, калі што не ладзілася. Казах па нацыянальнасці, ён звык прыстасоўвацца да людзей у славянскім асяроддзі. Да таго ж меў хобі: кіраваў секцыяй бокса, у якой займаліся пераважна студэнты будаўнічага інстытута, а яшчэ выкладаў электратэхніку вячэрнікам, падрыхтоўка да лекцый таксама вымагала часу. Такім чынам, спадар Сатаеў не меў ні ахвоты, ні вольнага часу для таго, каб здзекавацца з падначаленых, таму ў групе электрыкаў заўсёды панаваў добры настрой.

Верачцы на той час было гадоў дваццаць пяць. Мы працавалі ў адным аддзеле, і я штодня бачыла, як яна прабягала праз наш прахадны пакой узбуджаная і вясёлая, апранутая ў тонкую сукенку летам ці ў цёплую кофту зімою. На твары яе свяцілася прыязная ўсмешка. І кожнаму было зразумела, што такую прыемную дзяўчыну шчасце не абміне. Мусіць, і сама яна была перакананая ў гэтым, бо пакуль у яе ўсё атрымлівалася выдатна: у інстытут паступіла з першага разу, скончыла паспяхова, атрымала добрае накіраванне на працу, дзе адразу далі месца ў інтэрнаце. А яшчэ Верачка захаплялася футболам, не прапускала ніводнага матча і магла гадзінамі расказваць пра выдатнага варатара Яшына, гульцоў Метравелі, Істоміна, Шасцярнова, Дасаева і яшчэ мноства футбалістаў, якія ўваходзілі ў склад зборнай СССР. Магла пералічыць усе матчы, калі саюзная каманда перамагала ў чэмпіянатах Еўропы. Здаецца, усё ведала і пра мінскае «Дынама», асабліва захаплялася Пракапенкам, які ўмудрыўся забіць гол пятою.

Разам з мужчынамі-супрацоўнікамі на трыбунах мясцовага стадыёна яна крычала і тупала, свістала на пальцах, выказваючы бурныя эмоцыі з нагоды ўдалай ці няўдалай гульні, а потым да наступнага матча абмяркоўвала гэтую падзею. Калегі ахвотна гутарылі з ёю пра спорт, але ніхто не заляцаўся. З расчараваннем яна зразумела, што яе ўспрымаюць не як дзяўчыну, а як добрага хлопца. Зрэшты, да такога стаўлення яна звыкла яшчэ падчас вучобы ў інстытуце. Хоць там у яе залётнікаў хапала, бо ў групе ўсяго было тры дзяўчыны, але Верачка аказалася разборлівая і не спяшалася заводзіць сям'ю раней часу, каб не ўскладняць сабе жыццё. Да апошняга курса яна нарэшце вывучыла сваіх аднакурснікаў. Вылучыла Валодзю Савасцюка, памяркоўнага і разумнага хлопца, які не піў, не курыў і за дзяўчатамі не ўлягаў, як некаторыя. Да таго ж староста іх групы. Верачка знайшла да яго падыход ужо ў той час, калі настала пара абараняць дыпломныя праекты. Хлопец і дзяўчына непрыкметна зблізіліся і ўжо на выпускным вечары сядзелі побач. На жаль, Вера трохі прыпазнілася. Ім далі накіраванні ў розныя гарады: Валодзя мусіў ехаць у Магілёў, а Вера — у Брэст. На развітанне ён паабяцаў, што як толькі больш-менш уладкуецца, прыедзе па яе. Вера ведала, што Валодзя — хлопец надзейны, і з лёгкаю душою накіравалася на новае месца працы. Гады два яны перапісваліся, але раптам ён не адказаў на яе чарговы ліст. Вера пакрыўдзілася і не стала больш пісаць. Навокал — процьма хлопцаў: архітэктары, сантэхнікі, канструктары, геадэзісты… У праектным інстытуце на той час працавала чалавек трыста, моладзі дастаткова.

Іншы раз у Веры з'яўляўся які залётнік у час курортнага адпачынку, але пасля ён з'язджаў у свой горад і знікаў назаўсёды. Ды і ў Брэсце час ад часу былі новыя знаёмствы, аднак пасля размоў пра футбол адносіны далей сяброўства не ішлі.

Мінула яшчэ колькі гадоў. Супрацоўніцы выходзілі замуж, з'язджалі з інтэрната, на іх месца сяліліся новыя спецыялісты, а Верачка заставалася адна. Хоць яна па-ранейшаму цікавілася футболам, але заўважала, што маладыя калегі, якія прыходзілі пасля заканчэння інстытутаў, ужо неахвотна падтрымлівалі з ёю гутарку. Ці то іх не цікавіў футбол, ці то сама дзяўчына…



Фота Кастуся Дробава.

Аднойчы ад сваёй аднакурсніцы, якую выпадкова сустрэла на вакзале, даведалася, што Валодзя ажаніўся, жыве па-ранейшаму ў Магілёве, атрымаў пакой у маласямейцы і ўжо прычакаў дачку. Што заставалася думаць? Валодзя — падманшчык і здраднік, а таму не варты яе чакання і слёз, дарма толькі патраціла на яго гады жыцця. За той час магла б неяк уладкаваць свой лёс. А цяпер мо і позна ўжо. Але нічога не зробіш, трэба жыць далей, калі такая выпала доля.

Пры праектным інстытуце пабудавалі новы інтэрнат, Верачцы як творчаму і паспяховаму работніку выдзелілі там асобны пакой, праўда, з агульнай кухняй. Гэта было вялікае шчасце!

Выбрала дзень, каб спакаваць рэчы (іх набралася ўжо шмат у параўнанні з тым часам, калі ўпершыню сюды засялілася). Сабралася цэлая гара газет, якіх яна нават не разгортвала, не мела жадання і часу чытаць. (На працы прымушалі абавязкова на нешта падпісацца. Яна выпісала «Чырвоную змену», каб толькі адчапіліся.) І вось стаяла каля папяровай гары і раздумвала: што з ёю рабіць? Выкінуць на сметнік? Шкода: часам газета патрэбна, каб нешта загарнуць. Вырашыла трохі забраць з сабою, астатнія выкінуць. Падняла бярэмя паперы, і раптам ён пад ногі вылецеў канверт. Валодзеў почырк. Канверт заклеены. Адкуль ён тут?!

Дрыготкімі рукамі разрываючы канверт, зірнула на штэмпель: пісьмо было даўняе, прысланае праз два гады пасля заканчэння інстытута. Атрымала газету, не разгарнула, не паглядзела, так пісьмо і праляжала сем гадоў непрачытанае.

Ліст быў кароткі. Валодзя пісаў, што атрымаў пакой у маласямейцы, і прапаноўваў Веры стаць ягонай жонкай. Яна горка заплакала, трымаючы ліст і шэпчучы: «Ах, Валодзя, Валодзік, Валодзечка… Чаму ж ты не патэлефанаваў? Чаму не напісаў яшчэ раз?»

Але цяпер ужо нічога ні паправіць, ні перарабіць. Зразумела, што прамігала свой лёс. Калі цябе прымушаюць выпісваць газеты, дык трэба хоць разгортваць, каб не згубіць нешта вельмі важнае ў жыцці. Захапляючыся чужой славаю, вельмі лёгка не заўважыць уласнае шчасце.

…Заставалася змірыцца. Зрэшты, у праектным інстытуце было шмат прыгожых незамужніх жанчын, якім пераваліла за трыццаць. Яны таксама былі занадта пераборлівыя, не спяшаліся замуж абы за каго, а ўрэшце засталіся самотныя, хоць і не страцілі прывабнасці, шыкоўна выглядалі і, мабыць, на нешта яшчэ спадзяваліся. У Верачкі знешнасць была звычайная. Дзяўчына яна невысокая, чарнявая, худзенькая, някідкая. Каб заўважыць яе ў натоўпе, трэба добра прыгледзецца. Вырашыла, што самае неабходнае мае: творчую працу, інтэлігентных супрацоўнікаў, неблагі заробак, асобны пакой. Што яшчэ трэба?

Набыла тэлевізар і з захапленнем глядзела ўсе футбольныя і хакейныя матчы. Абмяркоўвала цяпер іх пераважна з начальнікам Асанам Тулкібаевічам, які аказваўся у многіх поглядах на спорт аднадумцам, і гэта яе вельмі цешыла. Зрэшты, са сваёю жонкаю ён наўрад ці мог гутарыць гэтак жа зацікаўлена.

Гады міналі хутка. Верачка звыклася з адзінотай. Ёй пашанцавала, што ў канцы васьмідзясятых яшчэ паспела атрымаць аднапакаёвую дзяржаўную кватэру, якую прыватызавала, і цяпер з задавальненнем вярталася ў сваё самотнае жытло, дзе можна было схавацца ад гарадской мітусні і тлуму. Але якраз тады ў грамадстве пачалося браджэнне… Вера з уласцівым ёй фанатызмам прыбілася да царквы святога Сімяона, пачала пасціцца, цвёрда трымацца абрадаў і назаўсёды забылася пра ранейшае сваё захапленне — футбол. Але цяпер звычайнае наведванне царквы яе ўжо мала задавальняла. Ёй хацелася быць пры святым месцы заўсёды, належаць яму дарэшты. Калі яна не здолела стаць нечай жонкай ці хаця б жанчынай, дык чаму б ёй не быць Хрыстовай нявестай? Нават само імя падказвала, што яна не проста Вера, а самая шчырая верніца. Таму рашуча звольнілася з пасады вядучага інжынера і са шчаслівяю душою стала працаваць дворнікам пры царкве. Першаю вітала бацюшку і ўсіх работнікаў, якія служылі пры храме, а іх было даволі шмат, бо тут існавала бюро, якое арганізоўвала паездкі прыхаджан у святыя мясціны, а таксама ў трапезнай штодня абедала брыгада рабочых, якія займаліся рамонтам культавых пабудоў. У святочныя дні ў храм набівалася поўна вернікаў. Па вялікіх святах прыходзіла нават абласное начальства, якое паспяхова спалучала камуністычны атэізм з вераю ў збавіцеля Хрыста. Верачка глядзела на іх, усміхалася і думала: «Вось і вы прасвятлелі розумам! Мо і душою нарэшце ўздымецеся над сваім матэрыялізмам?»

Заробку царкоўнага дворніка ледзьве хапала, каб разлічыцца за камунальныя паслугі ды на самую танную ежу. Верачка нават радавалася, калі трэба было пасціцца: хоць трохі эканоміла грошы, каб купіць сабе які абутак. Яна даражыла кожнаю сваёю сукенкаю, кожнаю хустачкаю, бо невядома калі і за што магла купіць нешта новае. Вельмі баялася, каб яе не абрабавалі, і калі адыходзіла з кватэры, дык шмат разоў вярталася і правярала, ці добра замкнула дзверы. Засеў у памяці эпізод: калі яшчэ жыла ў інтэрнаце, у іхні пакой залезлі злодзеі, пабралі ў дзяўчат золата і грошы. А ў Верачкі была толькі адна каштоўная рэч — каўнерык з андатры. Яго не ўзялі, яна тады вельмі абуралася, чаму пагрэбавалі такою добраю і дэфіцытнаю рэччу. Пазней пашыла сабе паліто з той андатрай і да гэтага часу вельмі ашчадна насіла яго.

У люстэрка старалася не глядзецца. На ветры, сонцы ды на марозе яе худзенькі тварык пацямнеў, пакрыўся маршчынамі і плямамі. Сама яна высахла на трэску і зранку адчувала млявасць і слабасць ва ўсім целе, а таму ледзьве спраўлялася са сваімі абавязкамі, аднак паступова падчас працы да яе вярталася бадзёрасць, і Верачка зацята размахвала мятлою, змятаючы апалае лісце, ці шуфлем, адкідваючы снег. У канцы дня заходзіла ў царкву, станавілася на калені перад абразамі Хрыста або Багародзіцы — і слёзы замілавання ліліся па яе твары ад таго, што была далучаная да вялікай таямніцы служэння Богу.

Аднойчы зімой Верачка перастала хадзіць на працу. Праз тыдзень адна з верніц пайшла яе праведаць, але не дастукалася. Бацюшка даў загад дзяку дазнацца, куды падзелася дворнічыха. Царква патанае ў снезе — гэта ж нейкае бязладдзе! З міліцыяй адчынілі кватэру і знайшлі Верачку мёртваю. Яна паляцела душою да тых, у каго верыла і каго любіла болей, чым сябе.

# СУПОЛЬНЫ НАБЫТАК

## для перапісчыкаў і кнігадрукароў

**Духоўная літаратура мае выключнае значэнне ў далучэнні людзей да культуры, да рэлігійных традыцый, дапамагае асэнсаваць праблемныя сітуацыі і знайсці душэўнае суладдзе. Для тых, хто цікавіцца хрысціянскай літаратурай, сёння ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ладзіцца Дзень праваслаўнай кнігі, прымеркаваны да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання.**

Удзельнікі свята — Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, прадстаўнікі міністэрстваў культуры, абароны і адукацыі, духавенства, рэктары вышэйшых навучальных устаноў. У праграме мерапрыемства — адкрыццё экспазіцыі рэдкіх выданняў Біблії ў Музеі кнігі і ўрачыстая цырымонія перадачы дырэктарам НББ Раманам Матульскім факсімільнага выдання «Кніжная спадчына Францыска Скарыны» ў дар бібліятэцы Інстытута тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірыла Белдзяржуніверсітэта. Для наведвальнікаў свята дзейнічае экспазіцыя сярэднявечнай майстэрні па перапісванні кніг, дзе можна пазнаёміцца з гісторыяй кнігапісання і асветніцкай дзейнасцю Ефрасінні Полацкай, больш даведацца пра славянскае пісьмо і навучыцца каліграфіі. Маленькіх гасцей на дзіцячай пляцоўцы сустрэлі аўтары дзіцячай духоўнай літаратуры, а пераможцы «Конкурсу творчых літаратурных і даследчых работ, прымеркаваных да 500-годдзя выдання Бібліі Францыскам Скарынам» атрымалі каштоўныя ўзнагароды.

Наведвальнікі маюць магчымасць набыць кнігі праваслаўных выдавецтваў, а ўзнёслы настрой падчас свята ствараюць ансамбль скрыпачоў «Сугучча» гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка і дзіцячы харавы калектыў пры Нядзельнай школе мінскага Свята-Елісавецінскага манастыра. У выкананні юных музыкантаў прагучалі кантаты на пераствярэнні біблейскіх псалмоў Сімяона Полацкага.

**Юлія ШПАКОВА**

# Здані для бясстрашнай Ганны

## Загадкавая дама-пісьменніца з роду Радзівілаў

**Да жанру готыкі ў беларускай літаратуры нашы пісьменнікі звярталіся ў большай ці меншай ступені даволі часта. З найбольш гучных імёнаў — вядома, Уладзімір Караткевіч і Людміла Рублеўская. А былі і ёсць яшчэ Ян Баршчэўскі, Вацлаў Ластоўскі, Вольга Тарасевіч, Валерый Гапееў, Уладзімір Садоўскі… Але хто быў першым, стваральнікам гатычнай прозы на Беларусі?**

Першай жанчынай-пісьменніцай у Польшчы і Беларусі лічыцца Францішка Уршуля Радзівіл. Але малавядома, што гэты славуты род даў нам яшчэ адну выдатную жанчыну, імя якой незаслужана падзабыта. Ганна Барбара Алімпія нарадзілася каля 1762 года ў сям'і генерал-лейтэнанта, маршалка Трыбунала ВКЛ Станіслава Радзівіла, як мяркуецца, у Нясвіжы. Менавіта яе пяру належыць першая спроба прыстасаваць да нашых мясцовых рэалій жанр гатычнага рамана, які стаў паспяховым у яе часы ў Заходняй Еўропе. Свае творы яна пісала ў Заслаўі, выдавала ў Вільні. Адразу трэба абмовіцца: пісала на польскай мове. Але высвятляць з гэтай прычыны, да якой — польскай ці беларускай — літаратуры яе варта адносіць, — тое самае, што спрачацца наконт творчасці Яна Баршчэўскага ці Адама Міцкевіча, якія, ствараючы свае творы галоўным чынам «в ензыку польскім», нямала тым самым узбагацілі і беларускую культуру ды літаратуру. У польскай жа літаратуры Ганна вядома яшчэ і як папярэдніца рамантызму, пачынальніца «чорнага рамантызму», перакладчыца. Ставяць ёй у заслугу і стварэнне першага польскага псеўдагістарычнага рамана.



*Станіслаў Радзівіл, бацька Ганны Радзівіл.*

### НЕСПАКОЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

Пра біяграфію Ганны, на жаль, вядома яшчэ менш, чым пра творы. У 1778 годзе, ва ўзросце 17 год, яна пабралася шлюбам з мінскім старастам графам Дамінікам Пшаздзецкім, які валодаў маёнткам у Заслаўі. На наступны год яна нарадзіла яму ў Вільні сына Міхала, а ў 1782 годзе засталася ўдавой. Яшчэ праз пяць год яна пабралася другім шлюбам. Яе мужам стаў, нягледзячы на сур'ёзныя пярэчанні сям'і жаніха, будучы міністр унутраных спраў Каралеўства Польскага Антоній Тадэвуш Мастоўскі, малодшы за яе. Ён і прывабіў сваю жонку да літаратарства. Тадэвуш Мастоўскі, разам з яшчэ дзвюма публіцыстамі, быў выдаўцом газеты «*Gazeta Narodowa i Obca*» ў Варшаве. Дзякуючы мужу Ганна пазнаёмілася з многімі дзеячамі палітыкі і культуры. У 1792 годзе газета была закрыта, а Мастоўскі з жонкай выехалі ў эміграцыю, жылі ў Германіі, Швейцарыі, Францыі. У Парыжы Тадэвуш Мастоўскі быў пасрэднікам у перамовах паміж польскімі эмігрантамі і французскім рэвалюцыйным урадам, пасля чаго, вярнуўшыся на радзіму, быў арыштаваны расійскімі ўладамі за патрыятычны ліст, які, між іншым, напісала Ганна. Знаходзячыся ў той час у Рыме, яна звярнулася да караля з просьбаю вызваліць мужа з турмы. Пасля вызвалення Тадэвуш у сакавіку 1974 года ізноў вярнуўся на радзіму. Але прага да волі і незалежнасці свайго краю і нелюбоў да царскай улады падштурхнулі яго ў 1794 годзе да ўдзелу ў паўстанні Тадэвуша Касцюшкі за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Паўстанне было жорстка задушана, а Мастоўскага чакалі казематы Пецярбурга. І гэтым разам жонка не пакінула свайго мужа: сама едзе ў Пецярбург, дзе знаходзіцца з 1795 па 1797 год, і зноў яго вызваляе. Пасля яны едуць у Вільню, Варшаву, пазней — у Парыж. Тадэвуш Мастоўскі вярнуўся ў Польшчу ў 1802 годзе, а праз два гады яны развяліся.

### ПАЧЫНАЛЬНІЦА «ЧОРНАГА РАМАНТЫЗМУ»

Ганна пасялілася ў Вільні, затым у спадчынным маёнтку свайго першага мужа ў Заслаўі, дзе і піша свае творы. Вандроўкі з мужам па Еўропе не прайшлі дарэмна. У Францыі яна пазнаёмілася з модным на Захадзе ў тыя часы гатычным раманам. Яна сама спрабуе пісаць і, дзякуючы яе супрацоўніцтву з віленскім кнігавыдаўцом Юзафам Завадскім, выдае за ўласныя грошы ў Вільні зборнік на польскай пад агульнай назвай «Мае забавы» («*Moje rozrywki*», 1806), у які ўвайшлі таямніча-прыгодніцкія аповесці ў трох тамах. І том — «Страх у Замачку», «Статуя і Саламандра» (пераклад твора Кр. М. Віланда). ІІ том — «Мацільда і Даніла», «Цудоўны сапфір» (пераклад песні мадам *de Genlis*). ІІІ том — «Замак Канецпольскіх», «Не заўсёды так робіцца, як гаворыцца».

Ва ўводзінах да «Страху ў Замачку» аўтар сцвярджае, што апісвае рэальную гісторыю са свайго жыцця. У творы апавядальніца — сама аўтар — разам з сяброўкай інсцэніруе з'яўленне прывіду ў руінах, у якога паверылі іх даверлівы прыяцель. Таямніца, звязаная са з'яўленнем персанажа ў белай вопратцы, сее атмасферу жаху. Гісторыя была напісана пад уплывам чытання французскіх гатычных раманаў.

Ганна Радзівіл-Мастоўская па праве лічыцца пачынальніцай «чорнага рамантызму» ў польскай літаратуры. У адрозненне ад чыста «гатычнага рамана», з яго атмасферай жаху і трывогі, у «чорным рамантызме» страх — не самамэта. У ім галоўнае — не проста наяўнасць вонкавых эфектаў, а тое, як яны ўзаемазлучаныя з душэўнымі пакутамі персанажаў і аўтара. Тут аўтар суперажывае героям і заклікае да гэтага чытача. Гэта куды больш глыбокі мастацкі жанр.

Яшчэ да таго, як «Балады і рамансы» Адама Міцкевіча вызначылі пачатак рамантызму ў Польшчы, Ганна Радзівіл-Мастоўская, на ўзор англійскай пісьменніцы і адной з заснавальніц гатычнага жанру Ганны Радкліф, стварала свае дзіўныя гісторыі з прывідамі на фоне старых замкаў. Адно з гэтакіх апавяданняў — «Статуя і Саламандра». Лёсы двух юнакоў, егіпцяніна і жыхара Арморыкі, якія ў выніку дзіўных супадзенняў сустракаюцца ў старадаўнім замку, пераплятаюцца інтрыгоўным чынам, здзіўляючы чытача непрадбачаным фіналам. Апавяданне «Цудоўны сапфір, ці Талісман шчасця» — гэта ўжо рамантычны трылер, блізкі ўсім аматарам загадкавых усходніх казак, накшталт «Кнігі казак тысячы і адной ночы». З гэтай серыі — і апавяданне «Мацільда і Даніла»: прыгажуня Мацільда не можа злучыцца з закаханым у яе Данілам, а адказы на гэта варта шукаць у змроку шматвяковай сямейнай таямніцы. Палкае каханне на тле руін з прывідамі. У 1807 годзе ўбачыла свет «Астольда, князёўна з роду Палямона, першага літоўскага князя» — першая спроба напісання гістарычнага рамана ў Польшчы (ды і на ўсіх землях былой Рэчы Паспалітай), бо мастацкіх гістарычных твораў на польскай мове яшчэ не было. Раман заснаваны на змесце беларуска-літоўскіх летапісаў XV — XVI ст. Хоць ён і не дакладна гістарычны, бо пісьменніца збольшага абапіраецца на стылістыку псеўдагістарычных раманаў М. Жанліс і імкнецца паказаць жахлівыя наступствы любоўнай жарсці. Тым не менш яна ўпершыню папулярызавала гісторыю свайго краю.

### З ЗАБЫЦЦЯ

У 1809 годзе выходзіць апошні яе зборнік «Цацкі ў спакоі», таксама ў Вільні, але ўжо не ў Юзафа Завадскага, а ў дыяцэзіяльнай друкарні. Ён складаўся з пяці невялікіх аповесцей, у асноўным — пераклады-перапрацоўкі твораў Жанліс, Апулея, Лемерцьера.

Усяго пяру Ганны Радзівіл-Мастоўскай належыць 12 твораў. Найбольш яскравым з іх стала аповесць «Страх у Замачку». Нават сама назва выклікала некаторыя спрэчкі ў польскіх літаратуразнаўцаў. Адзін час лічылася, што «Замачак» — гэта памяншальнае ад слова «замак», але насамрэч назва паходзіць ад вёскі Замачак (Пілайтэ), якая ў часы пісьменніцы знаходзілася пад Вільняй (а сёння з'яўляецца адным з раёнаў Вільнюса) і дзе пэўны час Радзівіл-Мастоўская жыла. Вядома яшчэ, што Радзівіл-Мастоўская да напісання кніг была аўтарам некалькіх п'ес, якія, аднак, не захаваліся да нашых часоў. У Віленскім тэатры ішлі дзве яе трагедыі, апрача таго, яна напісала трагікамедыю «*Alfarys*».



*Тадэвуш Мастоўскі, другі муж Ганны Радзівіл.*

Нечакана для ўсіх яна раптам знікае з літаратурнага жыцця па невядомых прычынах. Вядома, што ў красавіку 1823 года імператар Аляксандр, едучы ў Вільню, затрымліваўся ў яе ў Цэрклішках, і яны разам шпацыравалі па садзе, пілі гарбату. Памерла Ганна Радзівіл-Мастоўская ў канцы 1833 года ў Заслаўі.

Вядома, што 1819 годзе ў Кракаве паставілі п'есу, заснаваную на яе творы «Страх у Замачку». З тых часоў Радзівіл-Мастоўская заставалася амаль у поўным забыцці. Толькі ў 2002 годзе ў кракаўскім выдавецтве *Universitas* выйшла першае пасля смерці пісьменніцы выданне, у якое ўвайшлі «Страх у Замачку» і «Статуя і Саламандры». «Страх у Замачку» быў перакладзены на беларускую мову Лявонам Баршчэўскім і апублікаваны ў 2006 годзе пад назвай «Здань у Малым Замку».

**P. S.** Сёлета 255 год з дня нараджэння Ганны Радзівіл. Яе партрэтаў не захавалася. Але ёсць выявы мужчын, важных у яе жыцці.

**Алег ГРУШЭЦКІ**



Алесь Гарун.

# Незабраны скарб

**У яго было мала часу — і для вершаў, і для жыцця. У яго не было будучыні, хаця сам ён пра гэта не ведаў. Ён не меў ані матэрыяльнага дабрабыту, ані людскога шанавання. У яго быў толькі талент, адзінота і пачуццё адказнасці за лёс свайго народа... 11 сакавіка спаўняецца 130 гадоў з дня нараджэння Алеся Гаруна (1187 — 1920).**

Сапраўднае імя паэта — Аляксандр Прушынскі. Ён адзін з тых нямногіх беларускіх творцаў пачатку ХХ стагоддзя, якія нарадзіліся ў Мінску. І нават нягледзячы на тое, што ў сваіх вершах ён пастаянна звяртаўся да вясковай тэматыкі, паэтычны радкі яго вылучаюцца на фоне тагачаснай беларускай літаратуры менавіта нейкім адметным, іншым, «гарадскім» гучаннем. У гэтым сэнсе можна параўноўваць яго хіба толькі з Максімам Багдановічам і Уладзімірам Жылкам. Алесь Гарун пражыў толькі 33 гады, але пакінуў найкаштоўнейшую паэтычную спадчыну. Магчыма, нам яшчэ не ўсё вядома. Творчасць і асоба аўтара зборніка «Матчын дар» доўгі час была пад забаронай. А вяртанне ў кантэкст нацыянальнай літаратуры — працэс доўгі і няпросты. Яшчэ гадоў дваццаць таму вучні старэйшых класаў вывучалі яго вершы па ксеракопіях універсітэцкіх канспектаў сваіх настаўнікаў. Бо іншай інфармацыі ў агульным доступе папросту не было.

Калі перачытваеш яго дасканалы паэтычнай формай верш «Літанне адзіноце», міжволі думаеш, што гэтае забыццё паэт наваражыў сабе сам:

*Зноў я прыходжу ў часе змяркання*
*Складаю Літанне, нясу Табе данне*
*Ад сэрца свайго, Адзінота;*

*Можа, раней, як яшчэ не радзіўся,*
*Табе быў аддáны, Табе прысудзіўся;*
*Крулева мая, Адзінота;*

*Можа быць, маці, калі спавівала*
*І ночы не спала, над люлькай спявала,*
*Аддала Табе, Адзінота;*

* * *

*Смерцю сваёй — ці наглаю згіну,*
*Ніколі Цябе я ужо не пакіну, —*
*Не здолеці мне,*
*Адзінота...*

Сапраўды ўражвае, што ва ўсіх гэтых грамадска-палітычных віхурах — праз войны, рэвалюцыі, змены дзяржаўнага ладу, арышты, высылкі, здрады, якімі так багатыя першыя дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя, Алесь Гарун ніколі не страчваў разумення, што павінен зрабіць для сваёй радзімы паэт, і дакладна фармуляваў гэта ў сваіх вершах:

*Пакінь, пакінь спяваць а праўдзе тэй,*
*што ў небе!*
*Яна чужая нам, таемных праўда сіл;*
*Яна не сходзіць к нам ў канечнае*
*патрэбе,*
*Калі пакуты дзень так довег і не міл!*

*Прашу цябе, мой брат, спявай*
*аб нашым горы,*
*Аб тым, што ёсць цяпер і што*
*даўней было,*
*І што на ўсякі твар кладзець,*
*як плуг, разоры,*
*І што ў мільёнах душ разоры правяло.*

(«Паэту»)

Аляксандр Прушынскі вядомы яшчэ і як вельмі актыўны ўдзельнік грамадска-палітычнага руху. Аднак яго адданасць слову, яго вера ва ўплыў паэтычнага радка на свядомасць сучасніка — не вынік, не працяг актыўнай грамадзянскай пазіцыі, а толькі сведчанне настолькі глыбокага таленту, што творчасць становіцца тоеснай самому жыццю.

Бадай, самы вядомы верш А. Гаруна — «Ты, мой брат, каго звяць беларусам...»:

*Ты, мой брат, каго зваць беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся;*
*Як не зрокся яе пад прымусам,*
*Так і вольны цяпер не зракайся.*

*Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,*
*Гэта скарб нам адзін захаваўся,*
*У сялянскай аграбленай хаце*
*Толькі ён незабраны астаўся.*

Падаецца, што такім пранікнёна-моцным гэты верш робіць усё ж не патрыятычны пафас, а дасканаласць паэтычнай формы. У той час (а зрэшты, ва ўсе часы існавання беларускай літаратуры) было багата паэтычных заклікаў любіць родны край і шанаваць сваю мову. Аднак пераважная большасць з іх гучыць як пракламацыя, а не як мастацкі шэдэўр. Магчыма, менавіта ідэальнае спалучэнне ўмення любіць Беларусь і здольнасці ўвасобіць гэта ў дасканалую паэтычную абалонку, дзе асновай ёсць менавіта паэзія, а не лозунг, і робіць постаць Алеся Гаруна такой прыцягальнай і для нас сённяшніх.

**Жанна КАПУСТА**

# Два дзесяцігоддзі з Іванам Чыгрынавым

Усім, хто шануе беларускае мастацкае слова, добра вядомы раманы «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Вяртанне да віны» ды іншыя творы народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. Нараджэннем з Магілёўшчыны, з Касцюковіцкага раёна, у апошнія гады свайго жыцця ён прыкіпеў да Пухавіцкай старонкі. Балатаваўся ў дэпутаты парламента ў гэтым раёне. Меркаваў пабудаваць тут, у Блужы, на памежжы Пухавіцкага і Асіповіцкага раёнаў, на памежжы Міншчыны і Магілёўшчыны, уласнае лецішча. Як старшыня праўлення Беларускага фонду культуры шмат дапамогі, шмат парад даў у арганізацыі Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея ў вёсцы Блонь. Дзякуючы ініцыятывам Івана Гаўрылавіча ў фонды музея патрапілі многія мастацкія работы знакамітых жывапісцаў.

І калі ў самым пачатку 1996 года Іван Чыгрынаў пайшоў з жыцця, пухавіччане вырашылі штогод ладзіць чытанні ў знак памяці народнага пісьменніка. Ініцыяваў гэты праект тагачасны старшыня Пухавіцкага райвыканкама Фёдар Супрун. Чалавек неабыякавы да літаратуры, нацыянальнай культуры, ён і сам піша вершы, іграе на музычных інструментах. Фёдар Уладзіміравіч сябраваў таксама з публіцыстам і празаікам Валянцінам Мыслівцам, які родам з Пухавіччыны, з вёскі Хазянінкі. А Валянцін Мыслівец якраз і працаваў з Іванам Гаўрылавічам у Беларускім фондзе культуры. Такі вось штрышок у сувязь Чыгрынава з Пухавіччынай, пухавічанамі.

Першая сустрэча прыхільнікаў творчасці Івана Чыгрынава адбылася яшчэ ў 1996 годзе. Тады з распаведам пра І. Чыгрынава ў раён прыехалі яго жонка Людміла Прохараўна, народныя артысты Беларусі Валянцін Белахвосцік (ён, між іншым, вучыўся ў свой час у Рудзенскай СШ, непадалёку ад Мар'інай Горкі), Марыя Захарэвіч, паэт Алесь Пісьмянкоў.

— За два дзесяцігоддзі мы шмат зрабілі для ўшанавання памяці Івана Чыгрынава, — распавядае дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч. — У літаратурна-краязнаўчай экспазіцыі змясцілі добрую падборку матэрыялаў, розных экспанатаў пра пісьменніка. Неадноўчы раённая бібліятэка выдавала адмысловыя буклеты, звязаныя з тэмай «Іван Чыгрынаў і Пухавіччына». Артыкулы пра славутага празаіка штогод з'яўляюцца ў раённай газеце «Пухавіцкія навіны». У Чыгрынаўскіх чытаннях за гэты час узялі ўдзел (і неадноўчы!) Анатоль Бутэвіч, Анатоль Вярцінскі, Навум Гальпяровіч, Леанід Дранько-Майсюк і шмат хто яшчэ.

Трэба заўважыць, што Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей — сапраўдны цэнтр у арганізацыі літаратурна-краязнаўчай работы ў Пухавіцкім краі, найперш — у школах раёна. Дзякуючы руплівасці менавіта Аляксандра Аляксандравіча Прановіча беларускія пісьменнікі — частыя госці ў самых розных паселішчах. У свой час на Пухавіччыну наведваліся Анатоль Сульянаў, Генрых Далідовіч, Алесь Марціновіч, Людміла Рублеўская, Віктар Шніп, Рыгор Барадулін, Віктар Жыбуль, Валерый Пазнякевіч, Эдуард Акулін, Леанід Дранько-Майсюк, Ганад Чарказян і многія іншыя паэты, празаікі. У музеі сабрана багатая калекцыя кніг з аўтографамі. Асобна вылучаны ў яго экспазіцыі пакоі, прысвечаныя народнаму паэту Беларусі Якубу Коласу, Алесю Бачылу (аўтар слоў да песні «Радзіма мая дарагая» нарадзіўся ў пухавіцкай вёсачцы Лешніца).

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Боль і як з ім жыць

## Чацвёрты беларуска-ўкраінскі альманах «Справа» пабачыў свет

У імпрэзе ў сталічнай бібліятэцы імя Пушкіна ўзялі ўдзел стваральнікі і аўтары альманаха, госці, зацікаўленыя ўкраінскай культурай і супрацоўніцтвам абедзвюх краін. Наведвальнікі мелі магчымасць не толькі паслухаць творы, зачытаныя аўтарамі альманаха, але й пазнаёміцца на выстаўцы з украінскай літаратурай.

Традыцыйным для «Справы» стала імкненне спрыяць умацаванню культурных зносін паміж дзвюма краінамі. Гэтым разам альманах адышоў ад традыцыйнасці, і на яго старонках упершыню з'явіліся творы польскіх аўтараў: Лешака Шарэпкі, гісторыка, дыпламата, пасла Рэспублікі Польшчы ў Беларусі (2011 — 2015 гг.), і Ігнацыя Карповіча, пісьменніка, які паходзіць з праваслаўнай этнічнай беларускай вёскі на Падляшшы. Раман апошняга «Сонька» стаў адным з цэнтральных твораў гэтага нумара «Справы». Крытыкі назвалі яго лепшым творам пачатку ХХ ст. у Цэнтральнай Еўропе апошняга дзесяцігоддзя. Невялічкі раман пісаўся І. Карповічам восем гадоў. Галоўнае ў гэтым рамане — лёс старой жанчыны, якая была з родных мясцін пісьменніка.

Боль становіцца не толькі адной з галоўных тэм рамана «Сонька». «Боль і як з ім жыць» — гэта ўвогуле галоўная тэма нумара. Пісьменніца Наталка Бабіна адзначыла: «Боль — гэта тое, што мы ўсе перажываем, без яго не можа існаваць жыццё, але ў ім ёсць і крыніца жыцця… З болем нараджаецца і з болем памірае чалавек…» Таму старонкі альманаха змясцілі матэрыялы балючых, цяжкіх, але разам з тым вострых і актуальных для сучаснасці тэм.

Адметнасць альманаха «Справа» і ў тым, што на яго старонках надрукаваны творы аўтараў з Берасцейшчыны, якія пішуць не толькі па-беларуску, але і на родных, брэсцка-пінскіх гаворках, такіх як Вера Філосаф з Камянеччыны, Пятро Шапяцюк з Кобрыншчыны, Ніна Амяльчук з Бярозаўшчыны.

«Справа» змясціла трынаццаць рубрык. Напрыклад, беларускімі аўтарамі Віктарам Кахновічам і Ірынай Дубянецкай у рубрыцы «Юбілеі» звернута ўвага на жыццё ўкраінскага гісторыка Міхайла Грушэўскага і святара, нацыянальнага дзеяча Андрэя Шаптыцкага, якія маюць непасрэднае дачыненне да нашай культуры. У рубрыцы «Памяць» пісьменніца Зінаіда Дудзюк успамінае педагога, прафесара БрДТУ, аўтара шматлікіх артыкулаў, дапаможнікаў, падручнікаў па забудове і планіроўцы паселішчаў Анатоля Кудзіненку, які родам паходзіў з Украіны, але лёс звязаў з Беларуссю. Вячаслаў Рагойша піша пра ўкраінскага даследчыка Івана Дзенісюка, які любіў і захапляўся беларускай літаратурай…

Альманах захапляе не толькі прозай, паэзіяй, навуковай публіцыстыкай, але і перакладамі, эстэтыкай і гэтым самым дае надзею знайсці свайго чытача ў беларуска-ўкраінскай культуры.

**Наталля ШЛЯЖКА,** *г. Брэст*

# Для дзяцей і ўнукаў

Знакаміты дзіцячы пісьменнік Мікола Чарняўскі парадаваў чытачоў новай цудоўнай кнігай. Называецца яна «Едзе вожык на кані», нядаўна пабачыла свет у выдавецкім доме «Звязда» (Мінск, 2016) у серыі «Вясёлы калейдаскоп», якая палюбілася ўжо юным чытачам.

Аўтар працягвае выдатныя традыцыі, закладзеныя ў свой час слынным паэтам-казачнікам Васілём Віткам. У змешчаных у кнізе творах для дзяцей фарбы і гукі роднага слова іграюць у кожным радку, як вясёлка пасля дажджу. Маленькіх чытачоў зацікавяць і парадуюць прымаўлянкі-забаўлянкі, створаныя сапраўдным майстрам паэтычнага слова Міколам Чарняўскім. Багатыя на фантазію і выдумку, сагрэтыя цёплым гумарам, творы захапляюць і лёгка запамінаюцца.

Атрымаюць задавальненне і дарослыя, калі будуць чытаць гэтую кніжку сваім дзецям і ўнукам. Хіба можна застацца абыякавым, не ўсміхнуцца, чытаючы хоць бы вось гэты, напрыклад, твор:

*Мацачок-баравічок*
*Вылез на дарожку.*
*Капялюшык —*
*З пятачок,*
*Бульбінкаю —*
*Ножка.*
*— Ты адкуль ідзеш?*
*— Адтуль,*
*З-пад бяроз, ад гаю…*
*— Сваякоў шукаеш*
*тут?*
*— Грыбнікоў шукаю.*

(«Храбры баравічок»).




Асалоду, задавальненне ад тэкстаў кнігі ўзмацняюць прыгожыя малюнкі мастака Вольгі Якубоўскай. Новае выданне — сапраўдны падарунак дзецям.

**Міхась СЛІВА**

# Кропка святла

## Беларускае паходжанне «светызму» Рыгора Іванова


*Мастак Георгій Іваноў падчас адкрыцця праекта.*

Творы гэтага мастака вы не зможаце забыць і заўсёды пазнаеце сярод іншых работ. Рыгор Іваноў — мастак святла. Менавіта так пазіцыянуе сябе апошнія некалькі дзесяцігоддзяў, захоўваючы індывідуальны стыль у адлюстраванні развіцця свету і чалавека. Сёлета мастак святкуе 65-годдзе. З нагоды юбілею ў Мастацкай галерэі імя Міхаіла Савіцкага адбылося адкрыццё вялікага арт-праекта аўтара «Пад знакам святла».

Непаўторны стыль жывапісу і асаблівае ўспрыманне жыцця — складнікі, якія дапамаглі творцу заваяваць любоў гледача. У мастака няма мудрагелістых, складаных сюжэтаў, якія трэба разгадваць як рэбус, яго творы — цяпло душы, адкрытае і адкрытае. Асабліва прыцягваюць героі: не ведаючы, чаму, пазнаеш у іх сваю гісторыю, дом, бацькоў.

Рыгор Іваноў лічыць, што творчасць у стылі «светызму» — новы кірунак беларускага мастацтва. Больш як дзесяць год ён стварае філасофскія канцэптуальныя творы, дзе святло выконвае галоўную ролю, расстаўляе акцэнты на прыярытэтных дэталях. Прадстаўленая экспазіцыя — гэта рэтраспектыва, больш за восем дзясяткаў твораў адлюстроўваюць жыццёвую філасофію аўтара.

— Гэтая выстаўка назывaецца «Пад знакам святла» невыпадкова: чалавек заўсёды верыць знакам, і я таксама веру, — расказвае Рыгор Іваноў. — Сто гадоў таму Казімір Малевіч намаляваў «Чорны квадрат», гэта таксама быў знак, аднак знак, як мне падаецца, негатыўны: святло спарадзіла цемру. Наступіла новае тысячагоддзе, і я вырашыў зрабіць добры знак — знак святла, які павінен падоўжыць існаванне жыцця, дабрыні, любові... Я хачу, каб была такая кнопка, націснуўшы якую ўсе людзі станавіліся б здаровымі, сытымі, дыхалі свежым паветрам. Мне вельмі падабаецца святло, яно неяк па-асабліваму ўплывае на чалавека, з'яўляецца яго ўнутраным станам. Наогул пра знак святла я задумаўся, калі ў 1968 годзе мне прысніўся сон, дзе я заходжу ў пакой і бачу вялікі экран, які свеціцца, але без выяў. Праз некалькі хвілін развагжанняў я адчуў, што з экрана на мяне хтосьці глядзіць, — гэта быў Бог. Пра гэты сон я забываў, але надышоў час акрэсліць арыенціры, і я стварыў «светызм» — новы напрамак мастацтва. Мяне часам пытаюцца, чаму «светызм» нарадзіўся на Беларусі? Дык вось, мне здаецца, таму, што ў слове «Беларусь» прысутнічае слова белы, а белы колер складаецца з усіх колераў вясёлкі, якія ззяюць прыгожым святлом.


*«Стварэнне свету», 2016 г.*


*«Дом», 2014 г.*

Сябры Рыгора Іванова кажуць, што сам мастак — чалавек светлы, добры і спагадны. Яго творчасць, нібы дзіця, убірае ў сябе ўсе яго добрыя якасці. Мастак насычае творы захапленнем, адкрытасцю, чараўніцтвам, таму яны быццам выпраменьваюць гармонію, спакой і ўтульнасць. Галоўная думка майстра: усё, асабліва мастацтва, пачынаецца з энергіі святла.

Увогуле, мастак бярэ на сябе вялікую адказнасць, калі прымярае ролю псіхолага. Яго філасофія абавязкова павінна дайсці да чалавека і накіраваць думкі ў патрэбнае рэчышча. Глядач нібы трапляе на сеанс арт-тэрапіі: зараджаецца пазітывам і аптымізмам, а пасля сам не разумее, чаму выходзіць з памяшкання быццам бы іншым чалавекам — ачышчаным ад лішніх і непрыемных думак.

— На што толькі здольныя людзі майго пакалення! У творчасці Рыгора Іванова мы можам назіраць мноства экранаў, якія свецяцца, ствараюць уяўную пляцоўку, дзе нешта павінна адбывацца, — адзначае мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн. — Майстар гуляе з уяўленнем гледача. Ён абсалютна самадастатковы, стварае вялізную прастору для думак, увасобленую праз колер і святло. Глядзець на яго работы можна бясконца: моцна ўздзейнічае на эмоцыі. Па адукацыі Георгій Іваноў — скульптар, і нават у жывапісе ёсць адчуванне, што ён герояў не малюе, а выляпляе. Ён добры псіхолаг і заўсёды ведае, якому часу якая творчасць неабходна. Мастацтва Георгія Іванова дынамічна развівалася ў даволі складаны для ўсіх нас час — 90-я гады, не згасла і цяпер. Мастак шукае новыя тэмы, мяняецца, глядзіць на свет маладымі вачыма, і гэта дапамагае яму развівацца і ствараць новыя якасныя творы.

Георгій Іваноў плануе і надалей працаваць у стылі ўласнага «светызму», яшчэ больш пашыраючы яго магчымасці. З творамі гэтага кірунку мастацтва ён аб'ездзіў многія краіны свету. І практычна ўсюды яго творы набывалі з вялікім захапленнем. Непаўторная атмасфера свята і чараўніцтва, створаная майстрам, засцерагае ад праблем і трывог, таму і попыт ёсць. Як кажа сам Рыгор Іваноў, калі чалавеку хоць крыху стала добра побач з яго творам, значыць, ён змог перадаць яму іскрынку цяпла, падзяліцца радасцю жыцця.

**Вікторыя АСКЕРА**

# ВІД ПРАЗ ВОКНЫ

## вачыма гаспадыні-мастачкі


*«Дома», 2012 г.*

Калі вясна трапляе ў душу, адчуваеш, што за спінай — вялікія белыя крылы. Мастачка Кацярына Філюта адзначае, што ўвесну заўсёды хочацца рабіць немагчымае, ды не толькі цешыцца надвор'ем, але і аддаваць сябе цалкам зямлі, на якой нарадзіўся, спалучаючы ў творах усе яе адцені. На пачатку сакавіка творца ў галерэі «Прадмесце» прэзентавала персанальную выстаўку «цёплых» твораў «Позірк у вясновае акно».


*«Ранкам на лецішчы», 2014 г.*

Кацярына Філюта называе сябе мастачкай мажорнага характару. Яна не звяртаецца да сумных тэм, нясе пазітыўнае і добрае мастацтва. Вельмі тонка адчувае колер: у яе творах не знойдзеце штучных адценняў, работа — быццам рэальны, знаёмы пейзаж.

Мастачка нарадзілася ў сям'і знакамітага майстра і педагога Алега Луцэвіча, якога мастацтвазнаўцы называюць апошнім геніем Беларусі. Менавіта тата навучыў ніколі не пісаць таго, чаго не разумееш альбо ні разу не адчуваў.

— Гэтая выстаўка належыць адной з самых таленавітых мастачак нашай краіны, — адзначыў на адкрыцці экспазіцыі мастацтвазнаўца Мікалай Паграноўскі. — Ёсць аўтары, якія працуюць з нацюрмортам, але творы многіх вельмі падобныя: сустракаюцца аднолькавыя лініі, канцэпцыі, дэталі, матывы… Кацярына можа зрабіць тысячу сюжэтаў і не паўтарыцца. Яна гуляе з каларытам, дзякуючы гэтаму здольная стварыць у творчасці эфект нечаканасці. Для кожнага твора яна знаходзіць свой камертон. Бацька мастачкі, вядомы педагог і майстар Алег Луцэвіч казаў: «Аснова любой творчасці — правільны малюнак, толькі пасля яго можна думаць пра напаўненне». Алег Вікенцьевіч валодаў выдатным густам, быў прафесіяналам, і гэта Кацярына таксама пераняла.

Творчасць Кацярыны Філюта ведаюць у Германіі ды Расіі. У Беларусі мастачка выстаўлялася няшмат, але плануе арганізоўваць больш выставак. Пры ўліку, што праекты Кацярыны, акрамя таго, што прэзентуюць уласную творчасць, яшчэ нагадваюць усім імя любімага таты: большасць сваіх твораў яна прысвячае Алегу Луцэвічу.

Аснову экспазіцыі складаюць пейзажы, у якіх адлюстраваны вокны. Бо менавіта праз вокны мы сочым за тым, што адбываецца вакол, разумеем, якое надвор'е сёння, радуемся прыемнаму, гарэзнаму смеху, які даносіцца з дзіцячых пляцовак. Вокны Кацярыны Філюта — рамантычныя і цёплыя. Чалавек, які будзе глядзець на свет праз вокны мастачкі, не зможа застацца абыякавым да жыцця, будзе заўважаць дробязі, што ўпрыгожваюць свет і напаўняюць яго рознымі фарбамі. Гэта мастацтва з пазітывам, яно прызначана адцягнуць увагу чалавека ад штодзённых клопатаў і праблем, паглыбляе ў свет мар.

Сваімі святочнымі творамі Кацярына Філюта запрашае паразмаўляць на тэму прыгажосці. Зрабіць гэта можна да пятнаццатага сакавіка, у якасці падарунка — бясплатны квіток на наведванне выстаўкі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Наш космас

## Народная песня як тэрапія

**Нават у сучасным свеце песня ідзе побач з чалавекам. Нягледзячы на ўзрост і нацыянальнасць, мы з трымценнем ставімся да музыкі, надаем ёй сімвалічнасць і звязваем з пэўнымі перыядамі жыцця. Сёння ў слухача ёсць магчымасць выбіраць і віды, і жанры музыкі, але народная песня вылучаецца з гэтай разнастайнасці і мае неверагодна моцнае ўздзеянне на свядомасць. Вось чаму гэтая традыцыя зараз вяртаецца.**


Фота Аляксандра Кісялёва.
Падчас прэзентацыі зборніка «Песні матчыны з Вушаччыны».

### ГЛЫБОКАЯ ФІЛАСОФІЯ

Адзін з такіх «адраджэнцаў» — праект «Спеўны сход», які клапоціцца пра тое, каб мы вучыліся спяваць родныя песні, незалежна ад наяўнасці музычнай адукацыі. Пачыналася ініцыятыва менавіта так: людзі спявалі народныя песні разам. Але з гадамі «Спеўны сход»ператвараўся ў нешта большае: акрамя задавальнення, удзельнікі атрымліваюць і зваротную сувязь, і мінімальную музычную падрыхтоўку. Кіраўнік праекта Сяргей Доўгушаў адзначае, што ідэя ініцыятывы не змянілася — толькі ўдасканалілася: «Задача застаецца: пазнаёміць людзей з беларускай песняй і паспяваць усім разам. Зараз праект набывае іншую форму, сустрэчы сталі тэматычнымі. Хацелася б рабіць мультыстылёвыя сходы — напрыклад, песні розных стагоддзяў, але і сезонныя, па календары. Мы будзем запрашаць носьбітаў гэтых твораў і набліжаць слухача да традыцыйных спеваў».

Наступны «Спеўны сход» адбудзецца 2 красавіка: будуць сустракаць вясну. Арганізатары абяцаюць не толькі вакалатэрапію, але і адукацыйныя выгоды з падзнакай: «граматыка» і «госць». Пад выглядам граматыкі ўдзельнікі будуць выконваць практыкаванні па паляпшэнні голасу і пастаноўцы дыхання, а ад госця атрымаюць майстар-клас.

Народная музыка — гэта добры падмурак для музычнай творчасці. І для гэтага ёсць падставы: на гэтым «зерні» можна зрабіць самыя розныя песні. Аўтар праекта лічыць, што менавіта аўтэнтычнымі спевамі, адметнымі каранямі і мовай беларусы могуць быць цікавыя ў іншых дзяржавах. І нам ёсць, чым пахваліцца, дадае Сяргей Доўгушаў: «Я думаю, калі б быў каляндар з беларускімі народнымі песнямі, то іх хапіла б яшчэ на гадоў 200. Тыя ж самыя веснавыя песні, калі спяваць іх раз на год, будуць кожны раз рознымі. Бо нават у адной вёсцы знойдзецца каля 50 вясновых песень». І так з кожным сезонам, з кожным святам, з кожнай тэмай.

«Спеўны сход» абірае розныя тэмы, іх багата. Сяргей плануе зрабіць сустрэчы з беларускімі зоркамі па іх песнях, таксама ёсць тэмы Радзівілаў і беларускай оперы. Знайсці песні сёння — не праблема. Шмат запісаў зроблена спецыялістамі з Акадэміі музыкі, Акадэміі навук, Студэнцкага этнаграфічнага таварыства, іншымі фалькларыстамі. Ці нават можна запісаць песні самому, з'ездзіўшы ў экспедыцыю да носьбітаў традыцый. Сяргей Доўгушаў кажа: «Я выкарыстоўваю тыя песні, якія знаходжу сам. Мне гэта блізка і цікава, я ведаю, як яны гучаць, і заўсёды можна будзе параўнаць нашае выкананне з выкананнем носьбітаў. Канечне, далучаюцца і госці: у іх свае архівы, свае запісы».

Народная песня, на жаль, сёння не набывае такой папулярнасці, як музыка сучасная. У філармонію моладзь за аўтэнтыкай не ходзіць. Сяргей мяркуе, што склаўся стэрэатып, што там сумна і несучасна: «Народная песня стала штампам для моладзі. Я сам выступаю ў школах, знаёмлю дзяцей з традыцыйнай культурай, таму ведаю гэта дакладна. Ды і традыцыйныя спевы сёння пачалі выводзіць на сцэну, зрабіўшы іх нейкай забавай. У нашай песні шмат жанраў, шмат настрояў — гэта філасофія і глыбіня, наш беларускі космас. Атрымалася, што псеўдапапулярызацыя зрабіла з каштоўнай традыцыйнай песні прымітыўны прадукт замест сапраўднага народнага твора. Але гэтая калька ўжо адыходзіць, і наша задача — паказаць іншы бок аўтэнтыкі, а не проста знаёміць з песняй».

### ПЕРШЫ КРОК

І ў «Спеўнага сходу» гэта атрымліваецца: збіраецца аўдыторыя не менш за 100 чалавек, а на апошнюю сустрэчу наогул прыйшлі 300. Яшчэ большы наплыў спевакоў будзе, каіл пачнуцца вулічныя спевы на вольным паветры. Што да аўдыторыі, то яна вельмі розная, адзначае Сяргей Доўгушаў: «Цікава, калі на сходы прыходзяць не толькі дарослыя, але і маладыя, не толькі "людзі ў тэме", але і не звязаныя з гэтым удзельнікі. Былі нават такія, хто зусім не цікавіцца народнымі песнямі, але яны зрабілі першы крок да знаёмства з традыцыйнай культурай. Прыемны момант, што тыя, хто прыходзіць проста паглядзець, пачынаюць далучацца. Яно і зразумела, бо такая тэрапія: разам спяваць не так страшна, тут усё проста: чым больш людзей, тым смялей спяваецца».

Асаблівасць «Спеўнага сходу» найперш у тым, што людзі тут робяць канцэрты разам — і слухачы, і музыканты. Мяжа паміж тым, хто для каго дае канцэрт, знікла. І гэта дае такое прыемнае адчуванне еднасці. Сяргей кажа, што нават адчуванне сваёй нацыі: «Не адзін я заўважаў тыя моманты, калі натоўп спявае песню акапэльна ці з музыкамі, і сапраўды існуе разуменне таго, што ёсць беларусы, ёсць нацыя. Песня можа быць і не народнай, але трэба вызначыць, што гэта за песня. Вось выпадак, калі ладзіўся фестываль "Камяніца", было шмат людзей. Алег Хаменка тады прапанаваў эксперымент, які мне падаўся немагчымым, а потым стаў цудам: вядомую "Купалінку" мы прапанавалі праспяваць людзям. Так і адбылося, нягледзячы на тое, што экран, на якім трансляваўся тэкст песні, зламаўся, людзі працягвалі спяваць усе разам. Мы не былі гатовыя да такога, але ў той момант ад гэтай еднасці гуку і голасу пачалі падступаць слёзы».

На жаль, у нашым грамадстве страчана культура яднання праз песню, яе трэба вяртаць. Грузіны ў гэтым сэнсе паказваюць прыклад: могуць наўпрост заспяваць народны твор нават у кафэ. Сяргей Доўгушаў хоча змяніць стаўленне і да спеваў, і да выканання песні, але спачатку трэба пазнаёміць чалавека з гэтым творам і выклікаць у яго пачуццё гонару за песню: «Трэба вяртаць традыцыі мінулага. Калі я бачу, як хлопцы спяваюць, мяне гэта цешыць, бо зацікавіць народнай песняй хлопцаў складаней, чым дзяўчат. Раней спявалі ўсе і не сароменіся. Тая пераемнасць, якая была натуральнай, калі спявалі бацькі і дзеці, павінна, на мой погляд, быць і цяпер, каб паўсюль можна было пачуць традыцыйную песню».

### ЧАС ЭКСПЕРЫМЕНТА

Адным з самых гучных праектаў «Спеўнага сходу» апошнім часам лічацца «Песні матчыны з Вушаччыны» — прысвячэнне Рыгору Барадуліну. Прэзэнтацыя альбома адбылася ўжо на некалькіх канцэртах, але Сяргею Доўгушаву ўжо хочацца працягу. Зборнік нарадзіўся з песень у выкананні Барадуліна, запісаных Алесем Камоцкім, і маленечкай кніжачкі, назва якой стала і назвай альбома: «У мяне была думка, што трэба натхніцца песняй, прапусціць яе праз сябе і стварыць пераасэнсаваную версію. Менавіта так і зрабілі: пражылі гэтыя песні і атрымалі новыя творы. Не было ніякіх межаў, таму кружэлка атрымалася эксперыментальнай: дзесьці — авангард, дзесьці — акадэмізм ці рок. Рабілі так, як адчувалі».

Песні ў альбоме ў асноўным абрадавыя. Музыканты выбіралі іх самі. Для адной з песень аранжыроўку рабіў малады беларускі кампазітар Канстанцін Яськоў, а ў выкананні хору «*Salutaris*» яна гучыць духоўна і моцна як гімн, а ў арыгінальнай версіі — больш сціпла. Як і, напэўна, усе астатнія песні. Але Сяргей кажа, што версіі параўноўваць не варта: «Калі я сам пачаў шукаць песні, прыйшло іншае стаўленне да іх. Але ёсць і галоўны вораг — адаптацыя песні, каб яна была зразумелая. Накладаць эстрадны рытм на аўтэнтычны твор — лязом па сэрцы. Самі носьбіты кажуць, што так не спяваецца, атрымліваецца сапсаваны твор. Але ёсць шмат добрых прыкладаў: у творчасці Мусаргскага ёсць народная песня, Манюшка ўкладаў у свае творы беларускія традыцыйныя песні. Я лічу, гэта вартая, глыбокая і пераасэнсаваная праца. Тое ж самае атрымалася і ў нас».

Несці беларускую народную песню ў свет — справа адказная. Выбіраць, якой яна атрымаецца, — арыгінальнай ці пераапрацаванай, вясёлай ці сумнай, будуць самі музыканты, а справа ўдзельнікаў «Спеўнага сходу» — натхняцца і спяваць. Узгадваючы гады існавання ініцыятывы, немагчыма не ўспомніць і супольныя праекты, напрыклад, «Народны альбом», але лепшым з супольных праектаў Сяргей Доўгушаў лічыць сам «Спеўны сход» — вось такі патрыятызм: «Я б хацеў працягваць. Для мяне гэта лепшы праект, калі не адзін чалавек удзельнічае ў агульнай вялікай справе. Спадзяюся, што ў нас атрымаецца зрабіць гэтую ініцыятыву сапраўдным святам песні: хочацца зладзіць спеўны фэст, дзе б выступалі ўсе, хто калісьці ўдзельнічаў у спеўных сходах, і выдаць спеўнікі з тэкстамі народных твораў і фанаграмамі, каб кожны мог заспяваць народную песню дома».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# КЛАСІЧНЫЯ ФАРБЫ ВЯСНЫ

**Камерны склад Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Ігара Бухвалава і французскі саліст Аліўе Эт выступяць з канцэртам з серыі «Палітра любімай класікі» ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь 12 сакавіка — лепшая пляцоўка, каб афарбаваць настрой не толькі музыкай, але і выяўленчымі вобразамі.**

У праграму мерапрыемства ўключаны па-сапраўднаму вясновыя творы кампазітараў Габрыэля Фары, Каміля Сен-Санса, Гектара Берліёза, Шарля Гуно, Клода Дэбюсі, Жака Офенбаха.

Дырыжыраваць аркестрам будзе ўраджэнец Мінска, лаўрэат міжнародных музычных конкурсаў Ігар Бухвалаў. Сёння ён працягвае кар'еру ў Нью-Ёрку, дзе вучыўся ў вядомай школе Джуліярд. За плячыма Бухвалава — безліч канцэртаў у еўрапейскіх і амерыканскіх краінах: выступаў з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам у Вільнюсе, Аркестрам Агаяскага ўніверсітэта ў Афінах, Берлінскім філарманічным камерным аркестрам, Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь, камерным аркестрам «*New York Chamber Virtuosi*», Венгерскай операй у Румыніі. Ужо на працягу трох гадоў дырыжор супрацоўнічае з «*American Opera Theater*», дзе заваяваў прызнанне як віртуозны музыкант.

Саліст — французскі барытон Аліўе Эт, які атрымаў першы прыз па вакале ў Нацыянальнай вышэйшай музычнай кансерваторыі. Эт вучыўся ў такіх мэтраў, як Крысці Людвіг, Рэната Скот, Руджэра Раймонд. Саліст актыўна супрацоўнічае з Операй Бастыліі, Тэатрам Шатло, Нацыянальнымі аркестрамі Польшчы і Францыі, а таксама з Сімфанічным аркестрам Баварскага радыё і Цэнтральнай музычнай акадэміяй Пекіна, дзе выконвае першыя партыі. Дарэчы, гэта не першы візіт французскага артыста ў Беларусь: у 2010 годзе Эт ужо выступаў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі і даваў канцэрт у Полацку.

Канцэрт у Нацыянальным мастацкім музеі стане прысвячэннем Дням Франкафоніі ў Беларусі і 25-годдзю з дня ўсталявання беларуска-французскіх дыпламатычных адносін.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Перагнаць Таркоўскага?

## Рэжысёр Вячаслаў Нікіфараў пра гісторыю, айчыннае кіно і маладых

**У наступным годзе Нікіфараў адсвяткуе юбілей — 50 гадоў у кіно. За сваю кар'еру, якая працягваецца і зараз, кінематаграфіст паспеў зняць каля 30 стужак, папрацаваць сцэнарыстам і акцёрам, атрымаць Дзяржпрэмію СССР і «Залатога арла» ў Расіі. Зараз Нікіфараў працуе на «Беларусьфільме» — загадвае крэатыўнай часткай студыі, адказвае на творчыя пытанні і ўжо некалькі гадоў спрабуе дамагчыся здымак экранізацыі твора беларускай літаратуры.**

**— Вячаслаў Аляксандравіч, ужо два гады вы прапануеце экранізаваць «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Уладзіміра Караткевіча — твор, важны не толькі для нацыянальнай літаратуры, але і для краіны наогул. Распавядзіце, што гэта будзе за кіно? Чаму не атрымліваецца рэалізаваць задуму?**

— Чатыры гады, з 1986-га, я хадзіў у Міністэрства культуры з ідэяй фільма пра Ефрасінню Полацкую, а мне казалі, што на яго няма сродкаў. Экранізаваць Караткевіча не атрымліваецца з той жа прычыны. Гэтае кіно — касцюмнае, гістарычнае, як заўгодна яго назаві, але гэта класіка. Фільмы пра XV стагоддзе — праекты вельмі дарагія. Стужкі пра вайну нават таннейшыя, а такое кіно запатрабуе не аднаго, а двух гадавых бюджэтаў, але трэба канцэптуальна пралічыць прыярытэты. Для мяне гэта класіка, такая як Караткевіч. Навошта цягацца з геніяльным пісьменнікам, які не толькі глыбока сягнуў у гісторыю, але і знайшоў яркія выразныя сродкі ды папулярную форму? Няўжо хтосьці паспрабуе напісаць лепш за Караткевіча?

Я люблю гістарычныя тэмы, але да іх таксама трэба падыходзіць дыферэнцавана: гэтыя стужкі патрабуюць вялізных выдаткаў. Таму, выхопліваючы з тысячагадовай гісторыі нейкія цікавыя выпадкі, варта мець канцэпцыю гістарычнага фільма. У нас на кінастудыі такі канцэпт ёсць, яго распрацавалі ў крэатыўным аддзеле: калі тэма гістарычная, яна павінна быць нейкай вехай. Напрыклад, незалежны беларускі аўтар (Андрэй Курэйчык) прапанаваў тэму Скарыны. І гэта вартая асоба, чалавек не толькі Беларусі, але Еўропы, свету, першадрукар. У гісторыі таксама ёсць такія ж значныя кропкі: магчыма, гэта Магдэбургскае права ў Брэсце, а можа, час, калі наша тэрыторыя была адлучана ад ВКЛ.

**— Не так даўно расійскі фільм «Вікінг» Краўчука, зняты таксама на гістарычную тэму, выклікаў шмат спрэчак. Гістарычнае кіно заўсёды такое скандальнае?**

— У расійскіх гістарычных стужках шмат скажэнняў, памылак. Таму што на гэтыя блакбастары вылучаецца вельмі шмат сродкаў, а значыць, і касцюмы павінны быць добрымі, і сюжэт трэба закруціць так, каб гэтыя грошы пасля вярнуліся ад глядача. Менавіта таму рэжысёры ідуць на нейкія дадумкі, лішнюю кроў, дадаюць ці змяняюць лініі, каб надаць сюжэту драматызму, а ў выніку атрымліваецца не гістарычна дакладнае кіно, а экзатычнае авантурнае фэнтэзі на гістарычную тэму. Няўжо мы хочам гэтага?

**— Гістарычнае кіно накіравана на тое, каб паказаць краіну не толькі жыхарам, але і замежнікам. І бывае, што самі замежнікі прадстаўляюць сродкі на такое кіно. Як да гэтага ставіцца?**

— На жаль, сёння многія не вельмі добра ўяўляюць, што за краіна Беларусь, нягледзячы на яе багатую гісторыю і на тое, што некаторыя пражылі тут доўгі час. Я часта бываю ў Расіі: там Беларусь любяць, але амаль нічога пра яе не ведаюць. Чаго мы хочам ад кінематографа? Сродкамі масавага мастацтва паказаць, што ёсць Беларусь. Калі мы не асвоім тэму ўласнай гісторыі, то яе будуць скажаць адсутнасцю ў нас гэтай тэмы. А сумесная вытворчасць — гэта выйсце ў дадзеным выпадку, але кожная краіна — удзельніца праекта пачне патрабаваць змен у сцэнарыі, у працы, у людзях. Гэта добра, але да таго часу, пакуль яна не чыніць перашкод культурным і мастацкім каштоўнасцям.

**— Іншае пытанне, як потым «адбіваць» выдаткаваныя на гістарычнае кіно сродкі, бо ў Беларусі няма выхаду ў пракат краін СНД і на расійскае тэлебачанне...**

— Так, але ж менавіта гэтыя краіны маглі б быць нашымі патэнцыйнымі кліентамі. З іншага боку, мы не павінны здымаць кіно для іншых дзяржаў, але для сябе. І справа тут не ў шавінізме, а ў тым, што наша краіна непаўторная: этнасам, культурай, мовай. Грузіны ў савецкія часы здымалі камічныя навелы — смяяліся там над сабой. Спачатку яны дубліравалі свае кіно, якое было вельмі папулярнае ў пракаце па ўсім Саюзе. Пасля дубляж перасталі рабіць, бо заўважылі, што іх акцэнт — экзотыка, плюс да гумару. Менавіта такое стаўленне павінна быць да свайго народа. Можна абслугоўваць чужыя культуры, але, каб у пракат прымалі кіно пра нас, яно павінна быць зроблена так таленавіта і бездакорна, каб глядач сказаў: «Абавязкова пойдзем, гэта ж беларускі фільм!».

**— Улічваючы, што ў год нашыя рэжысёры павінны выдаваць па 6 стужак выдатнага кіно, якое можна было б прадаць у іншыя краіны, чакаць давядзецца доўга?**

— Мы будзем рабіць па 6 фільмаў у год, але раз у 2-3 гады мы павінны ствараць амбіцыйныя праекты. Не толькі ў прафесійным плане, каб паказаць, што яшчэ ёсць порах у парахаўніцах, але і важныя для соцыуму, краіны, дзяржавы больш складаныя стужкі. Менавіта так можна ўбачыць, што ў нашага кінематографа ёсць мышцы, мы можам вырашаць сур'ёзныя культурныя і гістарычныя задачы. Дзяржава павінна паклапаціцца пра гэта, якраз такія тэмы, як гістарычная, маюць вельмі моцны тэрапеўтычны і культурны эфект, яны ўздзейнічаюць на свядомасць. Гэтае экраннае жыццё зразумелае і блізкае, нават жыватворнае. Кіно каштоўнае тады, калі яно ўплывае не толькі на настрой гледача, але і на яго духоўны стан.

**— А яшчэ кіно каштоўнае тады, калі яно нацыянальнае, хоць у нас гэтае панятцце ў большасці звязана з этнічным складам здымачнай групы. А на ваш погляд, нацыянальнае кіно — гэта якое?**

— Каб казаць пра нацыянальны фільм, трэба падумаць, што такое кіно наогул. Акрамя вядомых тлумачэнняў, трэба падабраць сінонімы. Для мяне мастацтва кіно — гэта лёс, дыягназ, пакута, сродак. Калі дойдзеш да 150-га сіноніма, зразумееш і сутнасць. І так атрымаецца, што кіно — гэта не толькі масавае, ленінскае «найважнейшае з мастацтваў», але і наогул усё! Ёсць словы, якія апрыёры больш змястоўныя за іншыя: напрыклад, таленавіты. Нацыянальнае кіно якраз такое. Вы спытаеце: дзе ж там нацыянальнае? Адказ у тым, як ствараецца фільм, з чаго, — абавязкова асобай мастака, яго жыццём. Ёсць прыклад: Андрэй Канчалоўскі паездзіў па Амерыцы, зрабіў некалькі стужак, але так і не стаў амерыканскім рэжысёрам. Калі хтосьці з беларускіх рэжысёраў паспрабуе зрабіць тое ж самае, ён зразумее, што адарваўся ад блізкага. Чалавек можа быць беларусам па крыві, але пры гэтым ствараць абсалютна не нацыянальнае кіно. Яно будзе ці бяздарным, ці навеяным нечым іншым. Таму трэба быць асцярожным з паняццямі. Нават цалкам беларуская здымачная група не гарантуе нацыянальнага прадукту. Пачаць трэба ў першую чаргу са сцэнарыя, з гісторыі, распавядаць пра свой народ — менавіта гэта ключ. Сапраўды нацыянальнае вабіць і ўзбагачае іншыя культуры, таму я лічу самым вялікім злачынствам скажэнне роднай гісторыі.



*Вячаслаў Нікіфараў.*

**— Вы і самі ўзбагачалі іншую культуру, але, здымаючы для Расіі, атрымалі за серыял «Кат» у 2016 годзе «Залатога арла». У Беларусі ж ніякіх узнагарод вам не ўручалі…**

— Тым, хто здымае ў Расіі, кажуць, што яны беларускаму кіно здраджваюць. Але гэта яшчэ і праца, таму пра альтруізм казаць не даводзіцца. А тое, што я здымаў у Расіі, лічу добрым урокам: спасцig там многія рэчы, даведаўся пра тэхналагічную дысцыпліну. Я даўно не крыўдую на тое, што мяне ў Беларусі не ўзнагароджваюць. Калі на апошнім праекце ў мяне пачаліся праблемы, адзін з сяброў сказаў, што гэта не нагода для перажыванняў: мяне чакала нешта іншае. Так і сталася: паклікалі працаваць мастацкім кіраўніком на «Беларусьфільм». І я зразумеў, што гэта лёс. Я пражыў у Беларусі 49 гадоў і не думаю пра тое, што было б, каб я жыў у іншай краіне. Гэта мая зямля і радзіма. Калі адзначалі 90-годдзе беларускага кіно, я тады пажартаваў, што палову гісторыі беларускага кіно займаю.

**— Узгадваючы пра тое, што беларускаму кіно амаль стагоддзе, немагчыма не спытаць, што ж, вачыма рэжысёра, адбываецца з сучасным айчынным кінематографам?**

— Разумееце, зараз беларускі кінематограф пачынае выпраўляцца, але гэта доўгі шлях. І добра, што гэта пачалося з галавы, з Міністэрства культуры. Назіраю гэта і па крэатыўным аддзеле «Беларусьфільма», падведамаснай арганізацыі, дзе працую. Яго заўжды лічылі прыдаткам, а для мяне гэта — галава. У гэтым кентаўры менавіта наш аддзел — студыя, а ўсё астатняе — фабрыка. Рэдактары, з якіх пачынаецца ідэя і ад якіх залежыць вынік, чамусьці так не лічаць, мне даводзіцца ўпэўніваць іх. Але баюся, што не ў кожнай краіне свету гэты кентаўр існуе: звычайна фабрыка аддзелена ад студыі. На «Беларусьфільме» мы павінны падзяляць творчасць і працу: гэта дзве супрацьлеглыя рэчы, якія часта канфліктуюць як дыялектычнае адзінства. Але мы з'ядноўваемся, каб стварыць фільм. Кіно — працэс, творчы і пакутлівы. Сёлета Міністэрства культуры прапанавала 25 тэматычных напрамкаў для кінапраектаў, многія з іх даволі абстрактныя: экранізацыя беларускай класікі, глыбокая і найноўшая гісторыя Беларусі. Але тут няма нічога дрэннага: у нас з'явілася нейкая сістэма крытэрыяў, пад якую можна падбудаваць стужку. Тым не менш рэжысёр павінен сказаць канкрэтна, на якую тэму яго кіно. Часам кінематаграфісты прапаноўваюць тэмы, якіх недастаткова для кіно: трэба ведаць, пад якім ракурсам рэжысёр убачыў гэтыя тэмы. Заўсёды бачна, чаго кінематаграфіст хоча і як ён збіраецца гэта рабіць, калі можа сваю ідэю растлумачыць і зацікавіць ёй.

**— Гэта можа сведчыць пра кадравую праблему, але ў Беларусі шмат прафесіяналаў у сферы кінематографа...**

— Але, на жаль, вельмі шмат у нашым кіно страчана: у нас скарацілася колькасць рэжысёраў, якія б маглі зняць моцныя фільмы. Ёсць непісанае правіла, што на 6 фільмаў павінна быць 18 рэжысёраў — высокага ўзроўню, якія б змаглі зняць нават малабюджэтныя стужкі, якія ствараюцца больш складана. І гэты «атрад» трэба выхаваць: людзей з сучаснай кінамовай, з рамеством. Месца для аптымізму ёсць, але яно збоку — там, дзе здымаецца кіно на тэлефон, на фотаапарат. Безбюджэтнае кіно на сур'ёзнасць не прэтэндуе, але яно — знак таго, што ёсць людзі, якія любяць кінематограф, яны інтуітыўна вынайшлі гэта як сродак камунікацыі са светам. Я люблю казаць, што калі дзеці любяць футбол у якой заўгодна краіне, то іх каманда абавязкова стане чэмпіёнам свету. У Мінску (не ведаю, як у астатніх гарадах) ёсць усе прыкметы таго, што ў нас кіно любяць, а гэта значыць, што яно будзе. Маладая кроў з'явіцца, але чакаць яе ўсё роўна нельга: трэба працаваць зараз.

**— Маладыя рэжысёры ў нас ёсць, сёлета будзе выпуск з Акадэміі мастацтваў, хапае і ўжо заслужаных дзеячаў кінематографа. Ці прадстаўнікі маладой крыві яшчэ не гатовыя зняць нацыянальнае кіно?**

— Рэжысёраў многа не бывае: я ўжо сказаў, што існуе прапорцыя 3 рэжысёры на 1 стужку. Селекцыя праходзіць цяжка, і тое, што робяць людзі, улюбёныя ў кіно, — гэта арсенал, патэнцыял грамадства ў сферы кінематографа. І гэта я кажу пра аматараў, а не прафесіяналаў. Зараз можна даверыць сур'ёзнае кіно максімум 5 рэжысёрам, але не кожны здыме які-небудзь блакбастар ці мюзікл. У нас больш рэжысёраў, якія яшчэ шукаюць, а не тых, хто ўжо знайшоў. Датычна маладых, павінен сказаць, што наша сістэма выкладання, канечне, не ідэальная. У рэжысуры трэба працаваць практычна, тэарэтычна яе няма, нават калі хтосьці дасць самы каштоўны тэарэтычны рэцэпт, але рэалізаваць гэта будзе немагчыма. Гэта цяпер я магу растлумачыць кіно ў некалькіх словах: канфлікт падрывае характар, характар робіць учынкі, учынкі складаюцца ў падзеі, а падзеі — у гісторыю, і пачатак быў як мага больш адрозны ад фіналу. А каб мне гэта сказалі 30 — 40 гадоў таму, каб я гэта змог зразумець, я б дакладна ўжо перагнаў Таркоўскага. На першых карцінах у нас быў дырэктар, які сказаў Валерыю Рубінчыку, а пасля паўтараў і мне: «Вы не хвалюйцеся пра вытворчасць, а думайце, як Таркоўскага абагнаць!». А для гэтага трэба працаваць штогадзінна. У Італіі і Францыі рэжысуры вучыліся не ў школах: у Пазаліні ці Феліні на здымачнай пляцоўцы будучыя майстры кінематографа стукалі хлопаўкай ды прыносілі гарбату, а на 15-ы год самі выдавалі кіншэдэўр. Вось гэта можна лічыць сапраўднай школай.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Матэа СП'ЯЦЫ:

# «ГЭТА САПРАЎДНАЯ СУСТРЭЧА АКЦЁРА І ГЛЕДАЧА, ЯКАЯ НІКОЛІ НЕ ПАЎТАРАЕЦЦА»

Спектакль «Карчмарка» паводле Карла Гальдоні з'явіўся ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Горкага. У якасці рэжысёра-пастаноўшчыка быў запрошаны рэжысёр з Вероны Матэа Сп'яцы, якога гледачы ведаюць па спектаклі «*Viva Commedia!*». Італьянскі рэжысёр разважае пра новы спектакль, тэатр і яго значэнне для сучаснага чалавека.

**— З чаго пачалося ваша супрацоўніцтва з Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатрам імя Горкага?**

— Супрацоўніцтва з тэатрам у Мінску пачалося некалькі гадоў таму, калі мне прапанавалі правесці ў Беларускай акадэміі мастацтваў майстар-клас, які прадугледжвае невялікае паказальнае выступленне ў стылі традыцыйнай камедыі дэль артэ. Майстар-клас наведаў мастацкі кіраўнік Горкаўскага тэатра Сяргей Кавальчык. Пасля выступу мы пагутарылі і абмеркавалі ідэю пастаноўкі на сцэне гэтага тэатра спектакля «*Viva Commedia!*» па п'есе драматурга Рыкарда Піпі. У верасні 2014 года гэтую ідэю ажыццявілі. Падчас пастановачнага працэсу мы, я б сказаў, кінулі некалькі выклікаў традыцыям. Тэксту ў акцёраў не было, Рыкарда ствараў яго адмыслова пад кожнага на рэпетыцыях, таму драматургія нараджалася літаральна на сцэнічнай пляцоўцы. Але галоўным выклікам былі маскі. Бо спектакль грунтуецца на імправізацыі. Спачатку, вядома, былі некаторыя складанасці ў працы і пастаноўшчыкаў, і акцёраў, але яны тычыліся хутчэй слоўніка і метадалогіі. Для акцёраў гэта было нешта вельмі новае і незвычайнае, таму спачатку яны былі крыху ў разгубленасці. Але ў выніку ўсё атрымалася, і, мне здаецца, спектакль падабаецца і выканаўцам, і гледачам. Я таксама атрымаў задавальненне ад працы, і з акцёрамі ўсталяваліся добрыя адносіны. Таму прапанаваў кіраўніцтву тэатра зрабіць яшчэ адзін сумесны спектакль.

**— Ці можна назваць тэатр дэль артэ народным?**

— Я б сказаў, гэта адзін з відаў народнага тэатра. Традыцыя камедыі дэль артэ калісьці перапынілася, але ў XX стагоддзі цікавасць да гэтага жанру вярнулася. Эстэтыкай камедыі дэль артэ цікавіліся рэжысёры Дарыё Фо, Жак Капо, Жан-Луі Баро. У адрозненне ад метаду Станіслаўскага, які прадугледжвае пэўную навуковасць, камедыя дэль артэ — гэта тая праца, якая, вобразна кажучы, вывучаецца ў краме, яна вельмі рамесніцкая. У нас, безумоўна, ёсць асновы, пэўныя тэхнікі працы з маскамі. У спектаклі «*Viva Commedia!*» нейкія тэхнікі мы змянілі, нешта выкарыстоўвалі па-іншаму, і гэта было цікава. Я сам веру ў эвалюцыю ў працы з маскамі. І працягну пошук у гэтым кірунку ў наступнай пастаноўцы, якую мяне запрасілі ажыццявіць у Беларускім тэатры лялек. Аднак мяркую выкарыстоўваць маскі не з камедыі дэль артэ, а больш сучасныя, гэта будзе эксперымент.

**— Чым для вас была цікавая праца над пастаноўкай Гальдоні?**

— Праца над «Карчмаркай» Карла Гальдоні — гэта не камедыя дэль артэ, бо ў нас маецца тэкст п'есы. Дарэчы, менавіта Гальдоні правёў тэатральную рэформу ў італьянскай драматургіі, сутнасць якой — у замене шаблонных чатырох масак рэальнымі характарамі, менавіта ён пачаў ствараць італьянскія п'есы з цудоўнымі тэкстамі.

Мы імкнуліся выкарыстаць розныя цікавыя магчымасці для пастаноўкі дадзенай п'есы. Рабілі тэкст метатэатральным — такі «тэатр у тэатры». Мы размаўлялі і разважалі пра гэта разам з акцёрамі. Мой тэатр грунтуецца на акцёры. Мне нецікава рабіць нейкі рэвалюцыйны зрэз для пастаноўкі ці нешта аўтарскае, асобасна-асаблівае. Мяне цікавіць у першую чаргу мастацтва і майстэрства акцёраў, адносіны, якія ў іх усталёўваюцца з гледачом, розныя магчымасці, якія з'яўляюцца ў акцёраў на сцэне. Мы пагуляем з гэтымі магчымасцямі.

Чаму трэба ставіць сёння «Карчмарку»? Які сэнс вяртацца зноў да гэтага тэксту Гальдоні? У 1970-х п'еса, сапраўды, вярнулася ў моду, калі быў выбух сексуальнай рэвалюцыі, менш глабальнай, чым французская рэвалюцыя, але тым не менш… У Гальдоні не мужчына, а жанчына ў цэнтры апавядання — супярэчлівая, шматгранная, схільная да запалу і сумневаў, яна зусім не становіцца персанаж, і гэта адна з самых цікавых тэм у п'есе. А калі вы перасоўваеце акцэнт на пэўную тэму ў п'есе, можаце зусім па-іншаму інтэрпрэтаваць тэкст.

**— У чым, на вашу думку, актуальнасць тэатра сёння?**

— Гэта тое пытанне, якое я задаю сабе перыядычна. Адказ вельмі цікава, на мой погляд, паўстае ў пастаноўцы бразільскага рэжысёра Крысціян Жатахі ў яе спектаклі «Тры сястры» паводле Чэхава. Гэтая праца мяне ўзрушыла з-за сваёй аўтэнтычнасці, з-за адносінаў акцёр — глядач, з-за таго, што я адчуваў, калі прысутнічаў на спектаклі. Таксама рэжысёр проста перавярнула маё ўяўленне пра адносіны паміж сучаснымі тэхналогіямі і сцэнай. Дзеянне п'есы Чэхава яна пераносіць у Бразілію ў цяперашні час. Гледачоў запрашаюць на дзень нараджэння Ірыны, прапануючы танец і прыцягваючы прама на сцэну, руйнуючы так званую «чацвёртую сцяну». Нягледзячы на такі інтэрактыў, пастаноўка строга вартая канве твора. Паралельна ідзе пастаянная здымка таго, што адбываецца на сцэне, паколькі п'еса прапануецца гледачам у тэатральным і кінематаграфічным фарматах. У кіназале, якая знаходзіцца побач з тэатральнай, іншыя гледачы глядзяць фільм пра тое, як ствараецца непасрэдна зараз дзеянне на сцэне. Але яны бачаць ужо зусім іншы спектакль. Потым публіка мяняецца месцамі, і спектакль грацца яшчэ раз, дарэчы, вельмі класнымі акцёрамі.

Зразумела, што ў нашым жыцці актыўна пануе інтэрнэт. Дастаткова ўключыць камп'ютар, каб пераглядзець фільм ці якое-небудзь шоу. Чаму нейкі чалавек павінен падняцца з канапы, сабрацца і ў снег і мароз ісці на спектакль? Ёсць вельмі тонкі момант, уласцівы тэатру, — тое, чаго няма ні ў кіно, ні ў інтэрнэце... Гэта сапраўдная сустрэча акцёра і гледача, якая ніколі не паўтараецца. І таму мы звярнуліся да «Карчмаркі». І таму мы хацелі ў гэтую пастаноўку ўвесці і гледача, і рэжысёра, спрабуючы стварыць у спектаклі цесны кантакт з публікай. Напэўна, нехта прыйдзе, каб атрымаць асалоду ад камедыі Гальдоні. Будуць і такія гледачы, якія атрымаюць задавальненне ад самога тэатра і ад таго, што адбываецца ў гэтай тэатральнай сям'і. Але будуць і тыя, якія ацэняць складанасць і далікатнасць нашага мастацтва. Можа быць, сярод іх знойдзецца той, хто зразумее, наколькі важнае гэтае мастацтва пры ўсёй яго лёгкасці і эфемернасці. Адчуе: нельга паўтарыць тое, што мы робім тут і цяпер, таму што заўтра той жа спектакль будзе зусім іншым, таму ён ніколі не бывае аднолькавым.

**— Якія яшчэ рэжысёры, аўтары, спектаклі вас здзівілі? Чые творы вы хацелі б паставіць?**

— Вельмі шмат розных рэчаў я бачу на тэатральным біенале ў Венецыі. Але не заўсёды тое, што прагладаю, падабаецца. Я жудасны глядач, таму што мне складана прыходзіць у тэатр, глядзець і не працаваць. Напэўна, для мяне спектакль добры, калі я забываю, што я рэжысёр, і магу атрымаць асалоду ад пастаноўкі як звычайны глядач. З аўтараў мне вельмі падабаецца Луіджы Пірандэла, цікава папрацаваць з яго драматургіяй і паставіць што-небудзь з яго твораў. З задавальненнем чытаю рускія тэксты. У іх мяне ўвесь час нешта здзіўляе і захапляе. Напрыклад, нядаўна для сябе адкрыў Леаніда Андрэева (у нас ён практычна невядомы). Было б добра зрабіць якую-небудзь сучасную пастаноўку, напрыклад, па яго творы «Жыццё чалавека». У сучасных італьянскіх аўтараў прыцягваюць незвычайныя тэксты Летыцыі Русо: яна не ставіць знакаў прыпынку і, у адрозненне ад драматургаў, якія робяць мноства заўваг рэжысёру, яна, наадварот, усе пазнакі прыбірае, для яе значэнне мае толькі слова. Тэкст такім чынам атрымлівае шмат магчымасцяў для цікавага ўвасаблення на сцэне.

Аднак, мне здаецца, зараз не такі добры перыяд для італьянскіх драматургаў. І рэжысёрскі тэатр, я б сказаў, у нейкім сэнсе ў крызісе. Бо мы не абавязаныя ўвесь час уступаць у супрацьдзеянне з тым, што раней лічылася правільным, сёння мы можам пабачыць вельмі шмат спектакляў анамальных, у параўнанні з класічнымі. Але насамрэч я не ведаю, ці так дрэнна, што няма нейкіх арыенціраў. Цяпер усе пастаноўкі маюць даволі рухомую форму. Магчыма, мы перажываем перыяд, калі тэатр змяняецца: форма, манера, узаемадзеянне з гледачом.

**Вольга САВІЦКАЯ**



*Сцэна са спектакля «Карчмарка».*

# Топ 10 і героі

Інтэрнэт-праект «Тэатральная Беларусь» чарговы раз прадставіў рэйтынг спектакляў, якія найбольш уразілі летась. У апытанні ўзялі ўдзел 25 крытыкаў, у разгляд якіх увайшлі пастаноўкі, паказаныя ў Беларусі, — не толькі айчынныя, але і замежныя. Адметнасць сёлетняга галасавання ў тым, што на першых пазіцыях агульнага рэйтынгавага спіса апынуліся менавіта айчынныя спектаклі. Крытыкі — людзі, якія найперш занепакоеныя сітуацыяй у беларускім тэатры, «хвараюць» за справу і адзначаюць важныя тэмы і тэндэнцыі ў тэатральным працэсе. Адна з самых прыкметных тэндэнцый мінулага года — жаданне айчынных рэжысёраў больш звяртацца да сучаснай драматургіі як у рэпертуарных тэатрах, так і ў незалежных праектах. Сам факт звароту да такіх праектаў — ужо ў нейкім сэнсе крок да тэатра больш гнуткага і скіраванага на актуальнасць і грамадскую значнасць тэм. Між іншым, тым айчынным спектаклям, якія не баяцца складаных пытанняў, дасталася больш увагі нават у параўнанні з вядомымі пастаноўкамі замежных тэатраў (як, напрыклад, «Горад. Жаніцьба. Гогаль» (рэжысёр Юрый Бутусаў)) Санкт-Пецярбургскага акадэмічнага тэатра імя Ленсавета. А ў зводнай табліцы ў дзясятку лепшых пастановак патрапілі толькі тры замежныя. Таму лагічна, што сёлета з'явіўся асобны спіс лепшых беларускіх спектакляў, складзены шляхам выстаўлення балаў.

— Гэта сведчанне фарміравання ў нашым тэатральным працэсе новага рэжысёрскага пакалення, — адзначае Алена Мальчэўская, якая разам з Аляксеем Стрэльнікавым з'яўляецца куратарам інтэрнэт-праекта «Тэатральная Беларусь».

Дзясятка найбольш адметных айчынных спектакляў, на думку крытыкаў, выглядае такім чынам:

1. «Опіум» Цэнтра візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн» (набраў 48 балаў).
2. «На дне» Магілёўскага абласнога тэатра лялек (42 балы).
3. «Саша, вынесі смецце» Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра (31).
4. «Крэйцарава саната» Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра (24).
5. «Калядная гісторыя» Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек (14).
6. «Крыжовы паход дзяцей» Цэнтра беларускай драматургіі (13).
7. «*Dreamworks*» Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра (12).
8. «Евангелле ад Іуды» Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек (11).
9. «З жыцця казурак», Незалежны тэатральна-музычны праект (9).
10. «Камера, якую дала мне маці», Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў, Тэатральны праект *Homo Cosmos* (7).

Але не менш цікава паглядзець дзясятку і нават трыццатку беларускіх пастановак з агульнага спіса, каб скласці сваё меркаванне пра значнае і вартае ў беларускім тэатры. І каб зразумець, як і дзякуючы каму яно ўзнікае, сёлета арганізатары галасавання паклапаціліся пра асобную намінацыю. «Герой года» — гэта асоба ў тэатры: стваральнік спектакляў ці тэатральных праектаў, той, хто задае тон і актывізуе тэатральны працэс. Той, хто ўвасабляе сумленне і шчырасць у дачыненні да сваёй справы. Імёнаў шмат, але летась актыўным ньюсмейкерам быў рэжысёр Аляксей Ляляўскі. Не толькі таму, што ўганараваны расійскай «Залатой маскай» і не ўганараваны айчыннай тэатральнай прэміяй. Чалавек з высокімі прынцыпамі і вялікай стваральнай энергіяй.

# Колеры самасвядомасці

## Выстаўка-тэст для беларусаў

**Ці чулі вы калі-небудзь развагі пра бурак як сімвал шляхецкасці?.. Ці замацаваны ў нашай традыцыі чорна-белы арнамент, што большасці падасца незвычайным для беларускай культуры колеравым спалучэннем? Нечаканыя рэчы можа адкрыць падчас сваіх лекцый мастак і паэт Міхал Анемпадыстаў, які ўжо шмат гадоў займаецца даследаваннямі колераў Беларусі.**



Фота Дар'і Лабанавай.

Пакуль Міхал Анемпадыстаў рыхтуецца да прэзентацыі сваёй кнігі «Колер Беларусі», што адбудзецца ў канцы сакавіка, дзе тэма будзе раскрыта ў слоўных фармулёўках, у Галерэі Беларускага саюза дызайнераў адкрыта аднайменная выстаўка. 80 фотаздымкаў без подпісаў, дзе сярод іншага фігуруюць тыя ж бурак і чорна-белы арнамент, — тут колер Беларусі трэба проста адчуць. Праз узгаданыя з уласнага досведу дэталі, пазнавальныя водгаласы гісторыі, а таксама пахі, шоргаты і ўнутраную цеплыню, што могуць узнікнуць у памяці.

Тэма колераў у беларускай традыцыі для нас крыху дзіўная: у гэтым кірунку дагэтуль не існуе напрацаванай у нашых шыротах навуковай базы. Можна ўзгадаць хіба кнігі па каларыстыцы Леніны Міронавай, вучнямі якой у Акадэміі мастацтваў у свой час былі многія беларускія мастакі, у тым ліку Уладзімір Цэслер. Яна даследавала колер у мастацтве, аналізавала творчасць Казіміра Малевіча і іншых аўтараў, вывучала ролю колеру ў культуры Старога Кітая і паглыблялася ў іншыя цікавыя з'явы.

Гэтым, можна сказаць, даследаванне тэмы ў межах Беларусі і абмяжоўваецца (маецца на ўвазе, да работы Міхала Анемпадыстава), хаця яна тычыцца ўнікальнасці нацыянальнай культуры і самаідэнтычнасці. Таму тэма не толькі аказваецца надзвычай важнай, але ў апошні час яшчэ і трапляе ў трэнд. Дарэчы, у многіх краінах побытавая каларыстыка становіцца важным аб'ектам для асобнага вывучэння, а ў Швецыі нават існуе адмысловы інстытут.

Акрэсленая тэма для кола інтарэсаў звычайнага чалавека незвычайная, выстаўка ў Галерэі Беларускага саюза дызайнераў, хоць і паказвае да шчымлення ў сэрцы знаёмыя — такія беларускія — рэчы, нечаканая ўдвая. На фотаздымках вы







ўбачыце ў добрым сэнсе тыповыя для беларускага асяроддзя рэчы. Гэта тычыцца народнай творчасці (выцінанка-выразанка, вытканыя ўзоры), ежы (велікоднае барвовае яйка, пафарбаванае шалупіннем ад цыбулі, грушы ў кошыку, журавіны ў цукру, якія самі па сабе — салодкі і аскомісты пачастунак, — могуць стаць пэўным сімвалам Беларусі), архітэктуры (тут спалучаецца закінутасць драўляных сялянскіх пабудоў і багацце элементаў, што адсылаюць да шляхетных збудаванняў мінулага). Бачыцца ў выстаўцы заканамерны кантраст прастасці і багацця, які падкрэслівае, што культура Беларусі трымаецца на розных з'явах і кірунках. І адчуваць гэтыя пазнавальныя водгукі прыемна.

Выстаўка ўзнімае інтрыгуючыя пытанні. Што такое «колер» і чаму ён феномен культуры? Якія колеры першымі атрымалі свае імёны ў нашых продкаў? Якія каларыстычныя трэнды мы пераналі і як пераасэнсавалі? Якім чынам колеры фарміруюць самаідэнтычнасць? Зрэшты, здаецца, адказы мы знойдзем у кнізе Міхала Анемпадыстава, а на выстаўцы, хутчэй, іх сфармулюем самі.

Цені на снезе альбо на сцяне драўлянай хаты, рабізна на вадзе, малако ў кубку, элементы беларускага мастацтва — пра кожны з гэтых фотаздымкаў у рэчышчы ўжывання, значэння колераў у беларускай культуры і іх уплыву аўтар можа расказваць доўга.

Праўда, шчыра раю абысціся пакуль без тэарэтычнай падмацоўкі (вядома, калі вы яе пакуль не маеце). Выстаўка «Колер Беларусі» павінна ўспрымацца пачуццямі. Яна, дарэчы, можа стаць пэўным тэстам на прыналежнасць да Беларусі: ці адзавуцца ў наведвальніку гэтыя колеры?

**Ірэна КАЦЯЛОВІЧ**

### *Культурны ракурс*

**Увёсцы Жалезнікі Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці знаходзіцца гісторыка-культурная каштоўнасць XIX стагоддзя — царква Мікалая Цудатворцы. Лёс гэтага храма падобны да лёсу многіх беларускіх святынь, разбураных у гады савецкай улады. У 1929 — 1930 гадах царкву закрылі. Частка абразоў трапіла ў дамы мясцовых жыхароў. Будынак некаторы час выкарыстоўваўся як збожжасховішча і склад хімічных угнаенняў. Унутраныя фрэскі-роспісы незваротна страчаныя. У 2004 годзе паўразбураны будынак Жалезніцкай царквы пачаў аднаўляцца. З гутаркі з протаіерэем Сергіем я даведалася, што вельмі дапамог у аднаўленні храма расійскі мецэнат Сяргей Караткевіч, продкі якога жылі раней у Жалезніках.**

**7 мая 2006 года ў памяць 20-годдзя Чарнобыльскай трагедыі адбылося ўрачыстае богаслужэнне ў аднoўленым Свята-Мікольскім храме. Нягледзячы на малую колькасць мясцовага насельніцтва (пасля аварыі на ЧАЭС жыхароў вёскі выселілі), Жалезніцкая царква добра вядомая як у Гомельскай епархіі, так і па-за яе межамі. Цяпер сюды прыязджаюць вернікі з усіх куткоў Беларусі, з многіх рэгіёнаў былога Савецкага Саюза. Едуць да святыні, у якой знайшлі сваё месца храмавы абраз Свяціцеля Мікалая Цудатворцы, цудатворны спіс абраза Божай Маці «Усецарыца» (вядома шмат выпадкаў дапамогі ў лячэнні анкалагічных захворванняў), напісаны на Афоне ў манастыры Ватапед абраз Божай Маці Феадароўскай, абрадавы абраз-«свяча» Хрышчэнне Гасподняя (перададзены з вёскі Свяцілавічы Веткаўскага раёна на пастаяннае захоўванне), абраз святой блажэннай Матроны Маскоўскай з часцінкай яе мошчаў (вядома шмат выпадкаў дапамогі ў розных патрэбах), часцінкі мошчаў Свяціцеля Мікалая Цудатворцы і святога вялікамучаніка Панцялеймана і інш. Вернікі ўпэўненыя, што цудатворныя абразы дапамогуць у цяжкую хвіліну, але, як зазначыў протаіерэй Сергій, трэба яшчэ, каб чалавек сам пачаў мяняць вобраз жыцця...**

**Наталля ШАСТАКОВА**



***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***


ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
9.03.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1624.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 976

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2017
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2017
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», 2017


ISSN 0024-4686